Тамара Бунта

# Дзяўчынка з Вішнёвага завулка

Мастак
Аксана Аракчэева

*Светлай памяці бабулі,*
*мамы, таты, сястры і брата*

# ЧЫМ ДАЛЕЙ, ТЫМ БЛІЖЭЙ

*Мой самы першы ўспамін з дзяцінства — як я ўбачыла жабу. Напэўна, жаба была надта вялікая і страшная, бо, убачыўшы яе, я з усіх ног кінулася цераз сад дадому, клічучы брата:*

*— Шаша! Шаша!.. Шкарэй, шкарэй!.. Там нешта ў агарод шкок, шкок! Шкарэй — шпаймаем!..*

*Мае бацькі сцвярджалі, што я не магу гэтага памятаць, бо ў той час мне было гады тры з паловай, і я ведаю аб сваёй першай сустрэчы з жабай толькі па чужых успамінах: надта ўсіх развесяліла тады мая харобрасць.*

*Але мне здаецца, што я памятаю. Сама памятаю. А, можа, пасля шматлікіх пераказаў аб гэтым забаўным выпадку мая памяць зрабіла мне падарунак: адкруціла сябе назад, як кінаплёнку, і я прыгадала і ўбачыла, як бегла, трохгадовая, цераз сад і клікала брата:*

*— Шаша, Шаша! Шкарэй, шкарэй!..*

*Дзяцінства маё, чым далей ты ад мяне, тым бліжэй. Тое, што было тыдзень таму ці пазаўчора, забываецца, а тое, што здарылася амаль паўвека таму, памятаеш яскрава, калярова, нават з пахамі: памятаю, як смачна пахла свежай друкарскай фарбай неверагодна прыгожая кардонка-сумачка, у якой мне далі падарунак на навагоднняй ёлцы ў другім класе. Час ад часу я прыгадваю гэты пах — пах свята, казкі, цуду — аднойчы нават сасніла яго...*

*Дзяцінства маё, пачакай!..*

*Аўтар*

## «ШКІЛЕТ»

У дзяцінстве я вельмі баялася цемры і пустых пакояў. Я была самая меншая ў сям'і і таму ніколі не заставалася адна, а заўжды пад чыімсьці доглядам. Спалі мы, дзеці, таксама разам: брат — на адным ложку, а мы з сястрой — на другім. У бацькоў была свая спальня, а побач з ёю быў яшчэ адзін пакой, вялікі і заўжды пусты ад дзяцей. Ён называўся «зала» і прызначаўся для гасцей, а нас туды не пускалі, каб мы не запэцкалі белых чахлоў на канапе з валікамі, не сцягнулі абрус з круглага стала, не сапсавалі светлых палавікоў.

Вось гэтай залы я і баялася ўвечары. Тады ж тут тэлевізара яшчэ не было і нідзе яго не было ў нашай хаце. І ў суседзяў не было. Як мы жылі калісьці без тэлевізараў? Ды, здаецца, што і не сумавалі...

Аднойчы зрабілі мне аперацыю — выразалі апендыцыт. Пасля бальніцы мама, баючыся, каб сястра ў сне не стукнула мяне нагой у жывот, паслала мне ў зале на канапе з валікамі.

Як толькі святло пагасла, цемра навалілася на мяне. Я не разгледзела нічога: ні этажэркі з кніжкамі, ні круглага стала пасярэдзіне пакоя, ні нават праёмаў вокнаў. Мне здавалася, што на гэтай канапе з круглымі валікамі я лячу ў нейкай чорнай бязмежнай прасторы. Я не магла саскочыць з канапы і пабегчы спаць да сястры, бо баялася, што пад нагамі

не акажацца падлогі, а будзе таксама чорнае бяздонне. Я трэслася ад страху пад коўдрай, пакуль не правалілася ў такое ж бяздонне трывожнага сну.

Уначы я раптам прачнулася і доўга не магла зразумець, дзе я. Нейкі вялікі незнаёмы пакой, і побач не было сястры. Ага, гэта я адна сплю ў зале. Мне неяк стала няёмка. І раптам дзесьці ў цемры трэснула масніца. Ці ходзіць хто?.. Можа, маці? З заміраннем сэрца я прыслухалася. Не, здаецца, нікога... І раптам зноў — трэсь, трэсь!..

Тут ужо я не вытрымала: ускочыла, схапіла сваю падушку і хутчэй у дзіцячы пакой!.. Прыбегла і спынілася каля соннай сястры. Яна разлеглася ўпоперак ложка, а мне нават і прыткнуцца няма дзе. Калі ж я пачну яе будзіць, яна спрасоння і перапалохацца можа. Што рабіць? Тады я сцяміла: трэба ўсміхацца! Яна прачнецца, убачыць, што я ўсміхаюся, і не перапужаецца. Я як мага шырэй усміхнулася і пачала штурхаць сястру:

— Света, Света, прачніся, мне няма дзе прылегчы. Пасунься, Света!

Сястра расплюшчыла вочы, глянула на мяне і адкацілася на ложку да самай печкі:

— Ой-ёй-ёй, хто гэта, хто гэта?..

Я ўсміхнулася яшчэ шырэй і прамовіла:

— Не пужайся, гэта я — Тома...

— Томка?.. Дык чаго ж ты, як шкілет, зубы нада мною шчэрыш?

— А гэта, каб ты не перапужалася...

— Не перапужалася! — перадражніла сястра.— Расплюшчваю вочы і бачу, стаіць перада мною прывід у белай кашулі і зубы шчэрыць... Ну, добра, кладзіся ўжо, «шкілет»...

І, абняўшыся з сястрою, я хутка заснула ў нагрэтай пасцелі.

# САШКА І ГУСАК

Усем гадоў я пайшла ў школу.

Напярэдадні праходзіла медыцынскі агляд, і цётачка ў белым халаце змерыла мой рост, вагу, праверыла горла, вушы, а потым, загадаўшы прыкрыць далонню адно вока, спытала:

— Якая гэта літара? — і тыцнула кіёчкам у табліцу.

— Баранка! — упэўнена адказала я.

— Правільна,— усміхнулася лекарка і пераглянулася з маёй мамай.

— А гэта якая літара?

— Загагулька! — не менш упэўнена прамовіла я.

— Малайчына! Памяняем вока... Ну, а гэта якая?..

— Граблі!

— Цудоўна! — зарагатала лекарка.— Здароўе ў парадку. Можна ісці ў школу і вучыць літары.

Так я стала вучаніцай.

Першы дзень у школе мне запомніўся дзвюма падзеямі: у нашым класе апынулася дзяўчынка з імем, якога раней я ніколі не чула,— Роза, мяне надта ўразіла такое прыгожае імя. І другое, я нарэшце ўбачыла Гусака.

Гусак быў дырэктарам нашай школы. Наогул, прозвішча ў яго было Лебедзь, але дзеці ў школе чамусьці прыляпілі яму мянушку — Гусак, і мой брат, і мая сястра, і ўсе суседскія дзеці клікалі яго толькі так. Гэта ўжо потым, праз шмат гадоў, калі мы сталі дарослымі, то зразумелі, што наш дырэктар быў зусім не благі, а проста вельмі патрабавальны чалавек і намагаўся падтрымліваць у школе дысцыпліну і парадак. А тады, у маленстве, мы яго баяліся і не надта любілі, і я неаднойчы бачыла ў школе на парце ці на

падваконні, ці проста на сцяне накрэмзаныя літары — ГУСАК.

З Гусаком у нашай сям'і выйшла такая гісторыя. Мой брат у маленстве быў страшэнным гарэзам, і аднойчы за нейкія ягоныя свавольствы нашых бацькоў выклікалі да дырэктара.

Бацька працаваў цэлы дзень, маці таксама, таму ісці да дырэктара прыйшлося нашай старэнькай бабульцы.

Вось прыйшла бабуля да дырэктара, і пачаў ён расказваць, які ў яе непаслухмяны ўнук расце, ды як ён у школе хуліганіць, ды хто з яго вырасце, а наша бабулька, бедная, ад страху ўся калоціцца, галавою ківае ды прыгаворвае:

— Добра, таварыш Гусак, не хвалюйцеся, таварыш Гусак, бацька з ім разбярэцца, таварыш Гусак...

Тут дырэктар строга кашлянуў і прамовіў:

— Прабачце, але маё прозвішча не Гусак, а Лебедзь!

Тут наша бабуля перапужалася яшчэ болей:

— Ды што вы кажаце!.. Ай-яй-яй! А наш Сашка дома ўсё: Гусак ды Гусак, Гусак ды Гусак! Ну, пачакай, паршывец!..

Адным словам, атрымаў Сашка ад бацькі і за свавольствы, і за Гусака!

Але ён не з тых быў, каму паслухмянства надоўга хапала.

Неяк задалі нам запісаць дома ў сшытак пяць прыказак пра хатніх птушак і жывёл. Я чатыры прыказкі напісала, а пятую ніяк прыгадаць не магу.

Тут падыходзіць да мяне брат і з хітрынкамі ў вачах гаворыць:

— Во, я прыгадаў: «Не быць ніколі шэраму гусаку белым лебедзем».

Варухнулася ў маёй душы нейкае падазрэнне, але надта самой думаць не хацелася. Я запісала хуценька гэтую прыказку ў сшытак ды гуляць пабегла.

Праз дзень раздае настаўніца сшыткі і раптам пытае мяне:

— Томачка, а з якой кніжкі ты выпісала прыказку пра гусака і лебедзя?

— Ды ні з якой, мне яе брат падказаў.

— А, ну тады зразумела!..

Пашанцавала Сашку, што настаўніца наша была добрая і разумная, а то не мінуў бы ён яшчэ адных непрыемнасцей.

## ПРУТОК

Аднойчы наш тата адпачываў у санаторыі і, вярнуўшыся дадому, пачаў раздаваць падарункі:

— Гэта — табе!

— Гэта — табе!

— А гэта — табе! — І ён працягнуў мне... пруток. Самы, як здавалася, звычайны.

Я скрывіла вусны: вось яшчэ падарунак — пруток...

— Гэта не просты пруток, гэта — вінаградная лаза. Яе трэба пасадзіць у зямлю, паліваць вадзічкай, яна прарасце, зазелянее, і праз год—другі ў нас будзе свой вінаград.

Гэта навіна ўсім спадабалася. Свой вінаград! Але няўжо гэты сухенькі пруток прарасце і зазелянее, няўжо на ім вырасце смачны вінаград? У гэта нешта мала верылася, асабліва матулі. А калі маці даведалася, што тата купіў гэты пруток ажно за дзесяць рублёў, яна і зусім раззлавалася. І тым не менш пруток быў урачыста пасаджаны ў вялікую кадку з-пад старога фікуса, а паліваць яго даручылі мне.

Кожны дзень я старанна палівала зямлю ў кадцы, а потым доўга разглядала свой падарунак. Я шукала на прутку хаця б якую-небудзь пупышачку, з якой бы паказаўся зялёны лісток. Але ніякіх пупышачак, ніякіх лісцікаў на прутку не з'яўлялася.

«Цікава,— аднойчы падумала я,— вось я яго паліваю, паліваю, а ён, можа, яшчэ і каранёў не пусціў».

Я азірнулася, а потым двума пальцамі хуценька вырвала пруток з зямлі. Так і ёсць, ніякіх каранёў не было. Я ўсадзіла пруток назад і пальцамі зраўнавала зямлю.

Уначы я ўбачыла сон, быццам мой пруток зазелянеў, вырас пад самую столь, як наш стары фікус, і стаяў абвешаны ўвесь гронкамі вінаграду.

Раніцай перш-наперш я пабегла да кадкі. «Ну,— думаю,— сёння ўжо сапраўды карані выраслі!» Я вырвала пруток — зноў нічога...

І цяпер кожны дзень, паліўшы пруток, я выцягвала яго з зямлі, спадзеючыся ўбачыць вусы каранёў. Ды дзе там!..

Тата надта перажываў з-за гэтага, а маці толькі пад'юджвала:

— Ну, як жа ж, захацеў, каб на гэтай палцы за дзесяць рублёў вінаград вырас!

Аднойчы, выцягнуўшы пруток і ўпэўніўшыся, што каранёў усё яшчэ няма, я ўжо хацела ўсадзіць яго зноў у кадку, як раптам над маёй галавой пачуўся сярдзіты голас бацькі:

— Што ты робіш?

— Я... я правяраю, выраслі ў прутка карані ці не...

— І часта ты так правяраеш? — здзівіўся бацька.

— Кожны дзень...

— Ну, вось,— закрычаў тата маме на кухню,— вось, у чым тут справа! Не мог мяне той чалавек ашукаць! Я ж бачыў яго вінаград!

— Ну, а нам які толк ад таго вінаграду,— сказала мама, уваходзячы ў пакой.— Выкінь цяпер свой пруток на сметнік!

— Навошта ж яго выкідваць? За яго грошы заплачаны,— адказаў тата.— Гэты пруток яшчэ вельмі нават можа спатрэбіцца!

І выразна глянуўшы на мяне, тата выцягнуў пруток з кадкі і паклаў на шафу.



# ТАТАЎ КАПЯЛЮШ

Быў у таты капялюш, фетравы, з шырокімі палямі, цёмна-зялёнага колеру. На ўсіх парадных фотаздымках тата сфатаграфаваны ў ім, бо меў толькі адзін капялюш. Дарэчы, касцюм «на выхад» у таты таксама быў толькі адзін — той, у якім ён жаніўся. Касцюм быў з добрай, цёмна-сіняй шарсцянкі ў дробную палоску, штаны шырачэзныя, плечукі ў пінжаку падкладзены ватай, ад чаго наш тата, сам па сабе высокі і шыракаплечы, здаваўся зусім магутным і вельмі-вельмі паважным, быццам які-небудзь вялікі начальнік.

І раптам здарылася бяда: татаў капялюш з'ела моль. Ну, не ўвесь, вядома, з'ела, але добра сапсавала верх, панарабіла там мудрагелістых сцяжынак.

Тата вельмі засмуціўся. Доўга ўважліва разглядаў капялюш, калупаў фетр пазногцем, намагаючыся хоць як-небудзь загладзіць злашчасныя сцяжынкі, круціўся перад люстэркам, то ссоўваючы капялюш на патыліцу, то надзяваючы фарсіста набакір.

— Нічога не зробіш,— уздыхнуў ён нарэшце.— Прыйдзецца купляць новы. А гэты буду насіць у лазню.

— У лазню? — жахнулася мама.— Ды цябе людзі засмяюць у такім капелюшы. Выкінуць яго даўно трэба!

— Як жа ж! — ускіпеў бацька.— Так усю хату выкінуць можна. Ды і прывык я да яго...

Капялюш быў акуратна пакладзены на сваё законнае месца ў шафе.

Некалькі дзён пасля, калі бацькі не было дома, мама паклікала мяне і сястру, уручыла нам капялюш і прамовіла:

— Выкіньце куды-небудзь далей... Бацька не хутка хопіцца.

Узрадаваныя, мы з сястрой выскачылі з хаты, прабеглі цераз сад, потым паўз агарод, пералезлі цераз плот і апынуліся каля чыгункі, якая цягнулася ўздоўж задворкаў. Між чыгункай і плотамі бегла мелкая брудная ці то рачулка, ці то канава, якую ўсе дзеці з нашае вуліцы называлі Смярдзючкай. Вось у ёй мы і вырашылі ўтапіць татаў капялюш.

На ўсялякі выпадак адбеглі далей ад нашай хаты. Капялюш мякка прывадніўся на свае шырокія палі і павольна паплыў па бруднай вадзе. Спачатку мы кідалі па ім камякамі зямлі, палкамі, каменнем, але потым спыніліся. Няхай сабе плыве зялёны фетравы караблік!..

Мы ўяўлялі, як наш капялюш праплыве па ўсёй Смярдзючцы, потым трапіць у нашу рэчку Ушу, праплыве па ўсёй Ушы, а потым... Спрачаючыся, ці даплыве татаў капялюш да акіяна, мы пабеглі гуляць да суседскіх дзяўчатак.

Увечары тата, вярнуўшыся з працы, амаль з парога спытаў:

— Дзе мой капялюш?..

Мы з сястрой заціхлі, перапужана пазіраючы адна на адну.

— Ён паплыў...— нарэшце выціснула я.

— Куды? — спытаў тата.

— У акіян...

— У які яшчэ акіян? — раззлаваўся бацька.

— Гэта я сказала дзецям выкінуць твой капялюш,— заступілася за нас маці.— Напладзілася молі, не хапала яшчэ на адзежу...

— Тата, але як ты даведаўся, што мы выкінулі твой капялюш? — спытала я, калі бацька супакоіўся.

— Што значыцца «як»? — здзівіўся бацька.— Ішоў з працы каля чыгункі, каб шлях скараціць, каля

нашага агарода цераз канаву пераскокваў, бачу: мой капялюш плавае.

Не верачы сваім вушам, мы з сястрой кінуліся ў сад, куляй пранесліся праз агарод, пералезлі цераз плот... Неверагодна, але татаў капялюш, праплыўшы некалькі сотняў метраў па канаве, зачапіўся за корч якраз каля нашага плота.

— Бач ты, канспіратары знайшліся! — насмешліва сказаў нам брат.— Трэба было ісці не ўверх, а ўніз па цячэнню, і ваш капялюшык даўно зрабіў бы цю-цю!..

А тата, калі даведаўся пра ўсю гэтую гісторыю, засмяяўся і сказаў:

— Да добрага гаспадара нават капелюшы вяртаюцца!



# БАБУЛІНА КАЗКА

Калі была маленькая, я любіла спаць з бабуляй: падкачуся ёй пад бок, абдыму, прыціснуся моцна і пачынаю прасіць:

— Бабуля, раскажы казку!..

Бабуля спачатку аднекваецца, а потым усё ж пачынае расказваць маю любімую: пра тое, як было ў маці сем сыночкаў-Васілёчкаў, а ў Бабы Ягі — сем дачушак-Гапушачак. Як пайшлі сыночкі-Васілёчкі ў лес па грыбы ды заблудзіліся і трапілі да Бабы Ягі. Вырашыла яна іх уначы з'есці. Але самы маленькі сыночак-Васілёчак зняў з братоў капялюшыкі і надзеў на галовы сонных дачушачак-Гапушачак, а іх хусткі аддаў сыночкам-Васілёчкам. Баба Яга памацала-памацала ўпоцемку па галовах дзяцей ды і з'ела сваіх дачушачак-Гапушачак, а сыночкі-Васілёчкі ўцяклі дадому.

Казка цікавая і страшная. Я ведаю яе на памяць, але заўжды прашу расказаць менавіта гэтую...

— Ды ў мяне ўжо язык баліць пра Гапушачак расказваць,— бурчыць бабуля, а я ўсё роўна ўпрошваю...

Вось раскажа яна казку, падаткне мне пад спіну коўдру і кажа:

— Ну, а цяпер спі!..— і хутка сама пачынае паціху пахрапваць.

Я ляжу на баку, прыціснуўшыся да бабулі і абняўшы яе рукой. Бок свой я ўжо адляжала, і мне трэба перавярнуцца на другі, ды не адважваюся. «Нельга да бабулі спінай адварочвацца,— разважаю.— Раптам падумае, што я на яе пакрыўдзілася». Але на адным баку ўжо ляжаць невыносна.

— Бабуля! — ціха гукаю я. Бабуля маўчыць.

— Бабуля! — гавару гучней.

— Га?.. Што?.. Што такое?..— падхопліваецца спрасонку яна.— Што здарылася?

— Нічога, нічога!..— супакойваю я.— Калі я да цябе спінаю адвярнуся, ты не пакрыўдзішся?

— Ах ты, Божухна, ну, вядома, не пакрыўджуся!..

Я з задавальненнем пераварочваюся на другі бок. Ляжу, прыслухоўваюся. Бабуля не храпе, значыць, не спіць. «Ну, вось,— думаю,— не спіць, бо пакрыўдзілася. Яна мне такую цікавую казку расказала, а я да яе спінаю адвярнулася, быццам злуюся чаго».

— Бабуля,— зноў гукаю.— Ты ўсё ж такі, пэўна, пакрыўдзілася, што я адвярнулася?

— Ды не пакрыўдзілася!..— адказвае бабуля, а голас нейкі незадаволены.

«Ага, вось ужо і сярдуе! — Я ніяк не магу заснуць.— Як усё ж нядобра зрабіла: адвярнулася ад сваёй бабулі!»

— Бабуля, скажы праўду, пакрыўдзілася ты ці не пакрыўдзілася з-за таго, што я да цябе спінаю адвярнулася?

— Ды кажу табе, што не!.. Спі!!!

Але мне не спіцца. І бабуля не храпе. Прыкра ў мяне на душы — бабулю сваю пакрыўдзіла, яна мне казку расказала, а я...

— Бабуля, скажы мне ў апошні раз...

— Ды што ты прычапілася? — крычыць бабуля.— Ану марш спаць да сястры!

Але я хуценька паварочваюся зноў на бок, моцна прыціскаюся да бабулі і маўчу. Бабуля таксама маўчыць. Хутка яна пачынае пахрапваць. Заснула...

«Ну, вось і добра,— думаю.— А ўсё ж такі ёй было крыўдна, што я адвярнулася...»

Я яшчэ мацней абдымаю бабулю і таксама засынаю.

# ЗМЯЮКА ПАД КАМЯНЮКАЙ

Маёй сяброўцы Волі бацькі купілі чарапаху. Надта цікавая: яна катала на сабе Вольчыных лялек, кубікі, кніжкі, запаўзала пад ложак і пад шафу, і мы з Воляй выцягвалі яе адтуль швабраю. Чарапаху назвалі Мусяй.

Улетку Воля выносіла чарапаху з хаты і пускала яе пагуляць на свежым паветры, паесці траўкі. І вось аднойчы чарапаха прапала. Мы яе шукалі-шукалі ў высокай траве, але так і не знайшлі.

Каб Воля не плакала, бацькі падаравалі ёй кацяня. Таксама цікавае: яно гуляла з паперкай, падвешанай на нітцы, качала па падлозе маленькі мячык, забіралася да нас на калені і пачынала вуркатаць.

Неяк мая мама праполвала ў агародзе градкі і раптам закрычала:

— Вой, змяя!

Я падскочыла да мамы. Сапраўды, сярод агуркоў з-пад каменя высоўвалася змяіная галава.

— Назад! — крыкнула мама.— Укусіць! Я стрымгалоў кінулася ў хату.

— Сашка! — закрычала брату.— Змяюка пад камянюкай!..

Брат, а за ім бацька ўжо беглі ў агарод. Сашка, нахіліўшыся, падхапіў з зямлі палку. Маці, раскінуўшы рукі, не пускала яго на градкі.

— Укусіць! — крычала яна немым голасам. Але брат нырнуў ёй пад левую руку, палкай падхапіў камень і перавярнуў яго. Камень перакуліўся і ...задраў угару чатыры лапкі, а потым падцягнуў іх пад сябе. Мы збянтэжыліся, а брат двума пальцамі схапіў «камень» і патрос яго перад маім носам:

— Дык гэта ж ваша Муська!

Усе пачалі смяяцца, а мама, бадай, гучней за ўсіх. Ад страху.

Я ўзяла чарапаху, прыціснула да сябе і з усіх ног пабегла да Волі.

— Муся знайшлася!

А брат потым яшчэ доўга дражніўся:

— Змяюка пад камянюкай! Змяюка пад камянюкай! Ратуйся, хто можа!..



# ГРАМАЦЕІ

Мы чакалі гасцей. Тата расклаў у зале круглы стол, які адразу стаў авальны, а мы з сястрой накрылі яго белым абрусам і пачалі расстаўляць на ім сподкі, кубкі, раскладваць відэльцы, насіць з кухні талеркі з халоднымі стравамі. На кухні мітусілася мама. Усе працавалі, толькі брат шлындаў невядома дзе.

Калі стол быў накрыты, мы знеслі ў залу крэслы і табурэты з усёй хаты, бо чакалі ў госці матулінага брата з жонкай, дзецьмі і ўнукамі. Што і казаць, сям'я ў іх была вялікая і вясёлая.

Я прынесла з дзіцячай спачывальні крэсла, на якое штовечар клала сваю адзежу перад сном, і паставіла яго якраз насупраць дзвярэй. Седзячы тут, будзе зручна бачыць усіх, хто заходзіць у пакой. Але гасцей усё не было, і я вырашыла збегаць на вуліцу паглядзець, ці не ідуць яны. А каб ніхто не заняў маё крэсла (а хто, акрамя брата Сашкі, гэта можа зрабіць?), я ўзяла паперку і вялікімі літарамі напісала: «Месца занята, Тома».

На вуліцы я гасцей не ўбачыла, затое сустрэла сваіх сяброўак. Мы паскакалі ў «класікі», потым пагулялі з мячом у «штандара», потым... Словам, калі, спахапіўшыся, я прыбегла дадому, госці ўжо сядзелі за сталом і ўсе крэслы і табурэты былі занятыя, акрамя матулінага — побач з бацькам. А на маім крэсле з замілаванай усмешачкай сядзеў — хто б вы думалі? — мой любы брацік Саша.

Павітаўшыся з гасцямі, я падышла да яго і тузанула за рукаў.

— Злазь! — сказала я яму як мага цішэй.

— Чаму? — Сашка наіўна вылупіў на мяне свае хітрыя вочы.

— Гэта маё крэсла!
— Чаму гэта тваё? Яно што, падпісана?
— Так, падпісана! Тут была паперка!
— Якая паперка? — Сашка, прыдурваючыся, пачаў нахіляцца і зазіраць пад крэсла, пад стол, пад абрус, нават пад талеркі, нібыта нешта шукаў. Госці сталі прыслухоўвацца да нас, а малыя, унукі майго дзядзькі,— пераглядвацца і пасмейвацца. Між іншым, я ім даводзілася стрыечнай цёткай і заўжды гэтым ганарылася. А тут пляменнікі смяюцца з цёткі! У мяне ўжо ў вачах закіпалі слёзы.
— Злазь, злазь, кажу табе апошні раз! — зашыпела я.
— Ай, во і сапраўды нейкая цыдулка! — Сашка ўстаў — пад ім на крэсле ляжала мая паперка.— О, дык я ўжо бачыў яе: «Месца занята, Тома»,— прачытаў ён як мага гучней.— Ну, дык усё правільна. Тут нехта напісаў табе, што месца занята. Вось я і палічыў, што гэта да цябе звяртаюцца, а не да мяне, і сеў.
— Гэта я сама табе напісала, што месца занята. І падпісалася: «Тома». Во, во!..— Я выхапіла паперку і пачала тыцкаць ёю брату пад нос.
— Дзеці, дзеці!..— адазваўся са свайго краю стала тата, адрываючыся ад размовы з дзядзькам.
— Не, пачакай!..— апраўдваўся Сашка.— Каб гэта ты напісала мне: «Месца занята», то паставіла б кропку, а потым свой подпіс. А ты паставіла коску, значыцца, гэта зварот да цябе...
— Не, гэта зварот да цябе! — закрычала я і пачала сцягваць Сашку з крэсла, але брат учапіўся ў яго рукамі.
— Ану, абое,— марш з пакоя! — падвышаючы голас, прамовіў бацька.
Але тут у спрэчку ўступілі нашы госці, прычым цётка са стрыечнай сястрой і ўнучкамі былі за мяне,




а стрыечныя браты — за Сашку. Тады мой дзядзька (а ён якраз быў настаўнікам) узяў паперку, дастаў з кішэні акуляры і, пачапіўшы іх на нос, прамовіў:

— З пункту гледжання граматыкі... усё ж такі мае рацыю Саша: у сказе маецца зварот...

— Во!..— узрадаваўся такой падтрымцы брат.— У школе трэба лепей вучыцца, грамацейка!

Ён учапіўся ў крэсла яшчэ і нагамі.

Гэтага я ўжо вытрымаць не магла: я ж была выдатніцай у школе, а Сашка прыносіў у дзённіку адны траякі.

Слёзы пырснулі з маіх вачэй:

— А хто ўлетку напісаў з піянерскага лагера: «Света беца і плюеца»?

Госці засмяяліся.

Тут ужо брат пачырванеў і залыпаў вейкамі, не ведаючы, што адказаць. А я, убачыўшы, што патрапіла ў самую кропку, пачала дражніцца:

— Света беца і плюеца! Света беца і плюеца!..

Але тут старэйшая сястра, пачуўшы, што гаворка пайшла пра яе (а ёй зусім не хацелася, каб госці распытвалі, чаму яна ў лагеры білася і плявалася), падскочыла да Сашкі і сцягнула яго з крэсла:

— Маленькім трэба саступаць, грамацей!

Нарэшце я села на сваё законнае месца, а Сашка пабег на кухню шукаць табурэт. Тут якраз у пакой увайшла мама, несучы перад сабою вялікую талерку з гарачай бульбай і катлетамі:

— Госцікі, даражэнькія, частуйцеся на здароўе!

Усе радасна зазвінелі відэльцамі, талеркамі, кубкамі...

А я з таго часу вельмі асцярожна абыходжуся са знакамі прыпынку, бо ведаю цяпер: ад кропкі ці ад коскі можа залежаць сэнс напісанага.

## ЛЯЛЬКА

Вы наўрад ці паверыце, але ў дзяцінстве я не мела цацак. Былі мяч, скакалка, санкі, лыжы, дрында, веласіпед, была «бітка», каб скакаць у класікі, былі рознакаляровыя шкельцы, прыгожыя гузікі, пер'е, зламаныя маміны брошкі, «залатыя» і «срэбраныя» цукерачныя абгорткі, каб рабіць у зямлі «сакрэты» — адным словам, усё тое, з чым можна забаўляцца на вуліцы.

Ад старэйшых брата і сястры мне заўсёды перападалі напалову спісаныя алоўкі, абкрэмзаныя чарнілам драўляныя лінейкі, недапісаныя сшыткі, дзе яшчэ было багата чыстых аркушаў, каб маляваць... Света часта прыносіла з бібліятэкі тоненькія кніжачкі з малюнкамі — я любіла іх разглядаць, а крыху пазней, у школе, ужо і чытаць. Вось гэта ўсё і займала мой вольны час.

Але мне хацелася мець цацкі — цэлую скрыню, цэлы пакой, каб рассадзіць на крэслах, на паліцах, на шафе, каб расставіць у кутку на падлозе лялечную мэблю і пасяліць там цэлую лялечную сям'ю. Такое я ўбачыла ў сваёй аднакласніцы, Розы, калі аднойчы патрапіла да яе ў госці.

Але бацькі не падзялялі маіх захапленняў. Для іх цацкі былі глупствам, пустым марнаваннем часу.

— Такая вялікая дзяўчынка, такая разумная, а просіш цацкі!..— смяяліся яны.— Больш кніжкі чытай ці ідзі вунь дапамажы бабулі посуд мыць!

Праўда, я магла б адмовіцца ад скрыні цацак дзеля адной вялікай лялькі — з доўгімі валасамі, з вочкамі, якія заплюшчваліся, і ў прыгожай сукенцы. Такія ўжо сталі з'яўляцца ў маіх сяброўак. Але каштавалі яны надта дорага.

— Ого!..— гаварыў бацька.— За гэтыя грошы вам усім тром абутак на лета можна купіць.

Маёй сяброўцы Галі на дзень нараджэння бацькі падаравалі вельмі прыгожую замежную ляльку. Да яе сукенкі — доўгай, пышнай, белай, як у маладой на вяселлі, было страшна дакрануцца. Вось Галіна маці і забараніла дачцэ дакранацца да лялькі. Яе садзілі на засланы ложак між дзвюх падушак з накідкамі — дзеля прыгажосці (там яна і прасядзела ўсё Галіна дзяцінства, пакуль яе, «састарэлую» і больш не патрэбную, Галя не перасадзіла пыліцца



на шафу). Але я згодна была і на такую лялькy, да якой нельга нават дакрануцца, хай бы толькі яна ў мяне была і сядзела на маім ложку, а я здалёк любавалася ёю.

Недалёка ад нашай хаты знаходзіўся магазін, пабудаваны на лузе. Таму яго так і называлі — магазін-на-лузе. У магазіне-на-лузе былі тры аддзелы: «Адзенне», «Абутак» і «Культтавары». У «Культтаварах» прадавалі сшыткі, кніжкі, радыёлы, грампласцінкі, а галоўнае, амаль цэлая сцяна там была

абвешана паліцамі, на якіх стаялі цацкі. Я яшчэ ў школу не хадзіла, а ўжо ведала, кім буду працаваць, калі вырасту. Буду прадаўшчыцай у цацачным аддзеле! О, калі б я стала тут працаваць, то цэлы дзень гуляла б з цацкамі і ніколі не зачыняла б магазін на абедзенны перапынак!..

Маё дзевяцігоддзе супала якраз з выхадным днём. Бацькі запрасілі да нас гасцей, упершыню вырашылі адзначаць мой дзень нараджэння і ўпершыню ў мяне спыталі: «Што табе падарыць?» Раней мне проста куплялі да гэтага дня новыя сандалі ці паркалёвы халацік на лета.

— Лялькy! — узрадавалася я.

— Глупства! — абурыўся бацька.— Ты ўжо ходзіш у школу, а ўсё цацкі просіш! Лепш купіць кофту ці новую сукенку!

Але я заўпарцілася: хачу на дзень нараджэння ляльку і больш нічога!.. Нарэшце маці згадзілася: «Яе дзень нараджэння, што дзіця жадае, тое і падорым». У мяне сэрца зайшлося ад шчасця: нарэшце здзейсніцца мая мара і ў мяне будзе вялікая лялька!

З усіх ног я панеслася ў магазін-на-лузе, каб паглядзець, якія ёсць у продажы лялькі. Іх там, на паліцы, сядзела дзве — абедзве вялікія, прыгожыя, з вочкамі, што заплюшчваліся, з валасамі, якія можна расчэсваць грабеньчыкам, заплятаць у косы ці складваць у розныя прычоскі. Якую з іх мне падаруюць? Можа, гэту, з касою, апранутую ў сапраўднае паліто? Вось, каб яе!..

Стаяла там яшчэ і трэцяя вялікая лялька, у паркалёвай сукенцы. Але яна была... трошкі несапраўдная, бо ўсю яе — і ручкі, і ножкі, і валасы, і вочкі, і вейкі — зрабілі з пластмасы. Вочкі не міргалі, валасы не расчэсваліся, а ручкі-ножкі былі на гумцы. Яна каштавала ў тры разы менш за «сапраўдных»

вялікіх лялек. «Кацюша»,— прачытала я на паперцы з цаною.

«Каб толькі мне не купілі гэтую Кацюшу!» — падумалася...

І вось прыйшоў дзень нараджэння. Я прачнулася рана-рана. Доўга чакала, калі адчыняцца дзверы, у пакой зойдуць мама, тата, сястра і брат і ўнясуць вялікую-вялікую, прыгожую-прыгожую лялькю.

Нарэшце, дзверы адчыніліся, увайшлі мама, тата, сястра і брат і ўнеслі... Кацюшу. Сэрца маё сціснулася, слёзы падступілі да вачэй. Але я бачыла шчырую радасць на тварах маіх родных. «Толькі б яны не здагадаліся, што падарунак мне не спадабаўся,— падумала я.— Толькі б не заплакаць!..» Каб стрымаць слёзы, я прыціснула лялькю да сябе, а потым стала цалаваць яе пластмасавыя шчочкі, вочкі, лоб...

І тут заплакала мама.

— «Не трэба грошы дарэмна траціць, не трэба грошы траціць!..» — сказала яна з дакорам бацьку.— Калі дзіця так радуецца таннай лялькы, як бы яна ўзрадавалася даражэйшай!..

Бацька толькі крактануў і прамаўчаў. Я зразумела, што ён таксама адчувае сябе няёмка. Мне ж стала шкада іх абаіх, і я паспяшалася запэўніць:

— Якраз такую лялькю я і хацела!

І сапраўды — я палюбіла Кацюшу. Усё дзяцінства я гуляла з ёю і больш ніколі не прасіла іншай лялькі. Я разумела, што побач з «сапраўднай» лялькай мая Кацюша будзе адчуваць сябе беднай, няшчаснай Папялушкай. Я шкадавала яе, маю любімую «дачку».

...Неяк гады тры таму ў адным двары ў цэнтры горада, каля бака для смецця, я ўбачыла такую ж Кацюшу, якая была ў маім дзяцінстве. Гумкі лялькі парваліся, таму яе галава, тулава, рукі і ногі валяліся

асобна. Калісьці і з маёй Кацюшай здарылася такая ж бяда, і я, ужо дарослая, бяздумна дазволіла бацьку выкінуць сваю лялькУ. І вось цяпер можна было падабраць на сметніку гэтую Кацюшу, адрамантаваць, перашыць ёй гумкі, пашыць прыгожую сукенку і вярнуць сабе любімую цацку дзяцінства. Але навокал былі людзі, і я сарамліва прайшла міма.

Дагэтуль шкадую!..

# АПЕЛЬСІНЫ

Дзіцячыя крыўды помняцца ўсё жыццё. Крыўды, нанесеныя дзіцячай душы дарослым чалавекам, тым больш.

Наша даўжэзная вуліца ў сто дамоў, якая адным канцом упіралася ў маю школу, а другім выходзіла на рэчку, на самай справе была завулкам з прыгожай назвай — Вішнёвы. І невыпадкова: на завулку амаль у кожным двары раслі вішні. Дарэчы, менавіта мой бацька прывёз іх са сваёй вёскі, з колішняй панскай сядзібы. Вішні былі пладавітыя, з цёмна-чырвонымі, мясістымі салодкімі ягадамі. Усе суседзі пачалі прасіць у бацькі адросткі, і ён не пашкадаваў іх, як, дарэчы, нічога не шкадаваў людзям...

Кожны май наш завулак патанаў у вішнёвай квецені. У чэрвені ж вішні трэба было вартаваць — ад шпакоў і хлопцаў-падшыванцаў, якія, ідучы з рэчкі, стараліся абабраць ягады яшчэ зялёнымі. А ў ліпені, у самую спякоту, калі хацелася залезці ў рэчку і не вылазіць адтуль, была ўсім, перш за ўсё нам, дзецям, самая праца — сабраць ураджай! Тыдні два мы літаральна не злазілі з дрэў. Абвязаўшы вакол

тулава матузок і пачапіўшы на яго бітончык з-пад малака, мы, як малпы, лазілі па суках, драўляных лесвіцах, платах, стараючыся абабраць усе да адной вішанькі. Так наабіраешся, што ляжаш спаць, вочы заплюшчыш, а ў вачах усё роўна — ягады вісяць!.. А ўхіліцца ад гэтай катаргі нельга было — за грошы, атрыманыя ад продажу вішняў, потым набываліся абноўкі да школы. Гэта значыць, што збярэш, тое і атрымаеш...

Таму, прызнацца, вішняў нам самім асабліва есці не хацелася. Гэтаксама як і яблыкаў, ігруш, сліў, агрэсту, парэчак, якіх багата было ў нашых садах... Ну, мо, толькі на самым пачатку лета, пакуль яны яшчэ не паспеюць. Хацелася чагосьці асаблівага, нетутэйшага, экзатычнага... Напрыклад, навагодніх мандарынаў. Гэтыя аранжавыя фрукты, падобныя на маленькія сонейкі, былі неверагодна смачныя. І перш за ўсё таму, што цэлы год іх нідзе нельга было купіць. Спачатку я, наогул, была ўпэўнена, што мандарыны растуць разам з шышкамі на вялікай елцы ў лесе ля хаты Дзеда Мароза, а напярэдадні навагодняга свята ён іх абірае і прывозіць дзецям у прыгожых кардонных сумачках, поўных цукерак. Так мне сказала старэйшая сястра, а я, малая, ёй і паверыла...

Калі ў падарунку ад Дзеда Мароза сярод цукерак я знаходзіла мандарын, то гэта было шчасце. Калі ж раптам мандарынаў аказвалася два, то гэта было сапраўднае багацце: адзін мандарын можна было з'есці, а другі памяняць — нават на шакаладку!

Жаданей за маленькія аранжавыя сонейкі, мандарыны, былі толькі вялікія аранжавыя сонейкі — апельсіны. Апельсіны час ад часу «выкідвалі» ў нашай краме, і тады за імі выстройвалася велізарная чарга.

— Па аднаму кілаграму — у адны рукі!.. Даваць па аднаму кілаграму апельсінаў у адны рукі, каб усім хапіла!..— крычалі цёткі ў чарзе. А самі напіхвалі ў чаргу перад сабою па двое і па трое сваіх дзяцей. Ды яшчэ станавіліся адна перад адною.

— Я тут стаяла! — крычалі яны, калі хтосьці з «задніх» ушчуваў іх ці спрабаваў выгнаць з чаргі.— Марыя мне месца займала. Праўда, Марыя?..

— Займала, займала!.. Я Ірыне займала! — крычала цётка Марыя. І хаця ўсе разумелі, што гэта няпраўда, ніхто асабліва не настойваў: у наступны раз, калі прывязуць нейкі дэфіцытны тавар — грэчку, шпроты ці, мо, нават каўбасу з закавырыстай назвай сер... сер... сервелат, ох!..— суседкі памяняюцца ролямі, і цётка Ірына будзе займаць чаргу для цёткі Марыі.

Нам рэдка што перападала, хаця мы звычайна ўтраіх — сястра, брат і я — станавіліся ў чаргу. Прама няшчасце нейкае было: якраз перад намі ўсё смачнае заўсёды заканчвалася... Так крыўдна! Гадзіну, а то і дзве прастаім у душнай краме, узмакрэем усе, а якраз перад намі прадавачка крыкне: «Апельсіны канчаюцца!»

Маленькая, я пасля гэтых слоў звычайна пачынала раўці. Калі прадавачка пападалася жаласлівая, дык яна яшчэ знаходзіла пад прылаўкам некалькі аранжавых сонеек і міласціва выкладвала іх на вагі. Нам для шчасця, праўду кажучы, хапіла б і аднаго апельсіна на траіх...

Калі ж я падрасла і плакаць стала сорамна, было крыўдна і горка застацца без доўгачаканага ласунку. Але крыўды мы асабліва не паказвалі:

— Ат, і не надта хацелася! — звычайна гучна і ганарліва аб'яўляла сястра.— У гэтых апельсінах ніякіх вітамінаў няма. І наогул у мяне ад іх — алергія!

— Чаго ж ты тады дзве гадзіны ў чарзе стаяла? — з усмешкай пыталіся тыя, каму пашчасціла апельсіны ўхапіць.

— А я вось для сястрычкі малодшай хацела купіць... — уздыхала Света.

Звычайна знаходзілася якая-небудзь спагадлівая пакупніца, якая проста ўручала мне адзін аранжавы цуд. Калі ж такой у краме не знаходзілася, сястра потым усё роўна дзе-небудзь у суседзяў ці ў сяброўак выпрошвала апельсін і прыносіла яго мне, як самай меншай. Звычайна мы дзялілі яго на тры часткі і кожны сваю з'ядаў па-рознаму: Сашка праглытваў усё за адзін раз, я расцягвала задавальненне на паўгадзіны, а Святлана — на два дні. Яна гадзінамі смактала долькі апельсіна, бы цукеркі-ледзяшы. А потым, напрыканцы другога дня, прыносіла мне апошнюю, ужо крыху падсохлую:

— На! Я табе адразу яе прыхавала!..

І гэта долька аказвалася найсмачнейшай за ўсе...

Аднойчы я гуляла на вуліцы — расчэрчвала класікі, чакаючы сяброўак,— і ўбачыла неверагодны цуд: наша суседка, якую ўсе, і дарослыя, і дзеці, клікалі афіцыйна Фаіна Адамаўна, бо яна была нейкім важным начальнікам, ішла з працы і несла... поўную авоську агромністых апельсінаў! Іх было столькі, што яны ажно распіралі авоську ва ўсе бакі і нагадвалі мне баскетбольныя мячыкі ў сетцы, якія віселі на сцяне нашай школьнай спартзалы. Фаіна Адамаўна рэдка пешкі хадзіла па вуліцы — звычайна яе прывозіла легкавая чорная машына.

«Можа, пачастуе?..— мільганула думка.— У яе ж іх многа!..» І я ветліва ўсміхнулася:

— Здрасьце, цётачка Фаіна!

Фаіна Адамаўна здзіўлена зірнула на мяне, але адказала:

— Добры дзень! — і пайшла далей.

Яшчэ заставалася надзея: «Раптам сетка парвецца і ў дзірачку адзін апельсінываліцца!..» Але авоська, мусіць што, была моцная, праверaная.

Ля водаправоднай калонкі размаўлялі дзве суседкі. Яны даўно ўжо набралі поўныя вёдры вады, але ўсё ніяк не маглі нагаварыцца.

Суседкі ветліва павіталіся з Фаінай Адамаўнай і моўчкі праводзілі яе пільнымі позіркамі.

— Бач ты, Буржуйка недзе па блату тры кілі апельсінаў купіла!..— ціха сказала адна суседка другой, калі цётка Фаіна прайшла міма іх у свой двор за высокім плотам.

— Купіла, як жа!.. Мусіць, хабар атрымала! І нават не хавае...— сказала другая.

— Так, так... — засмяяліся абедзве, потым падхапілі кожная сваё вядро і разышліся ў розныя бакі.

Цётку Фаіну на нашам завулку і сапраўды ўсе за вочы клікалі Буржуйкай. І было за што. Яна адзіная з усіх суседак не садзіла агарод, як нашы матулі і бабулі, не корпалася ў градах усё лета, не варыла варэнняў, не рабіла саленняў. Яна наогул сама не гатавала ежу — пры ёй жыла старая цётка Тэкля, якая ўпраўлялася па хаце. Суседкі сцвярджалі, што гэта ніякая не радня, а самая найсапраўднейшая хатняя работніца. Быццам бы Тэкля — былая нянька, якая выгадавала Фаіну, а цяпер жыве ў яе ў нахлебніцах і бясплатна прыслужвае. Таму і празвалі Фаіну Адамаўну Буржуйкай, але яна ўсяго гэтага прызнаваць не хоча. А каб ніхто не дазнаўся праўды, цётка Фаіна і старой не дазваляе да суседак хадзіць, і сама амаль ні з кім не знаецца. Толькі з Вольчынай маці, якая была добрай краўчыхай, і Гальчынай маці, прадавачкай. Усе наўкол вельмі шкадавалі бабку Тэклю і не любілі Буржуйку.

Пакуль я пра ўсё гэта думала, прыйшлі мае сяброўкі — Воля і Галінка. Кожная прынесла з сабою сваю бітку — бляшаначку з-пад гуталіну, напоўненую пяском. На першы погляд, усе біткі былі аднолькавыя, але кожная дзяўчынка лічыла за гонар мець сваю асабістую і гуляць у класікі толькі са сваёй.

Мы дамовіліся, хто за кім скача, і гульня пачалася... Толькі распачала скакаць Воля, як са свайго двара выглянула Фаіна Адамаўна:

— Волечка, Галінка, дзяўчаткі, хадзіце да мяне ў дом, я вас чымсьці смачным пачастую!

Дзяўчаткі кінулі гульню і пабеглі ў двор да цёткі Фаіны. Я завагалася: Фаіна Адамаўна не назвала маё імя, але ж яна сказала «дзяўчаткі»!.. У адрозненне ад сяброўак, я добра ведала, чым зараз будуць частаваць. І жаданне атрымаць запаветны апельсін перамагло сорам. Я кінулася ўслед за дзяўчаткамі і дагнала іх ужо ля дзвярэй.

На ганку стаяла Фаіна Адамаўна і ласкава ўсміхалася маім сяброўкам. Убачыўшы мяне, яна зараз жа ўсміхацца перастала і сярдзіта запыталася:

— А ты чаго з'явілася?!. Я цябе ў госці не клікала. Што за выхаванне?!. Што за манеры?!.

Мне стала вельмі крыўдна і балюча: я адчула сябе нейкай жабрачкай. Слёзы выступілі на маіх вачах. Рэзка павярнуўшыся, я як мага хутчэй выбегла з чужога двара.

Ля варот Фаіны Адамаўны стаяла шырокая, зручная, пафарбаваная лавачка. На ёй звычайна сядзела бабка Тэкля, калі выходзіла на вуліцу «пагуляць». Я ўселася на гэтую лаўку і пачала чакаць дзяўчатак. Я была ўпэўнена, што яны, як сапраўдныя сяброўкі, адмовяцца ад пачастунку і выскачуць услед за мной. Мяне калаціла ад хвалявання...



Прайшла доўгая хвіліна, другая, трэцяя... Мае сяброўкі не выскоквалі з варотаў. Нарэшце паказаліся...

Яны выйшлі павольна і важна, задаволеныя і нават шчаслівыя. Кожная з іх хавала сваю правую руку за спінаю. Яны падышлі і сталі прама перада мной.

— А нас Фаіна Адамаўна вось чым пачаставала, ага!..

І абедзве разам, бы па камандзе, выцягнулі правыя рукі наперад. У кожнай на далоні ляжала па вялікаму аранжаваму сонцу...

Я нахіліла галаву ўніз і ціхенька праглынула сліну.

— Падумаеш, апельсіны... — спакойна, нават абыякава сказала я.— У іх аніякіх вітамінаў няма. І, наогул, у мяне ад апельсінаў — алергія!

Сяброўкі збянтэжыліся, яны не ведалі, што такое — алергія, і прамаўчалі. Але відавочна вельмі ўзрадаваліся, што не трэба са мною дзяліцца. Пабеглі, панеслі дадому свае сонейкі.

А я з таго часу і сапраўды не вельмі люблю апельсіны, хаця яны самі па сабе тут зусім ні пры чым. Затое з цягам часу палюбіла вішні, якіх, на жаль, усё менш і менш у бацькоўскім садзе.

## ЧУЖОЕ ГОРА

У дзяцінстве гора заўсёды бывае чужым. Толькі ў чужых сем'ях людзі паміраюць. Я і не думала, што можа памерці хто-небудзь з маіх родных, нават старэнькая бабуля. Не, мая бабуля яшчэ сто гадоў пражыве і яшчэ сто гадоў будзе маёй бабуляй!.. Тата і мама тым больш будуць жыць доўга. А я?.. А я наогул ніколі не памру!

Пахаванне дзе-небудзь на суседняй вуліцы было для нас, малых, вялікай падзеяй. Пачуўшы гукі пахавальнага марша, мы з усіх ног несліся, каб паглядзець на нябожчыка. Даганялі і пераганялі жалобную працэсію, залазілі на плот ці на дрэвы, каб з заміраннем сэрца зазірнуць у жахлівую труну, якую везлі на машыне, паглядзець, хто там ляжыць — цётачка ці дзядзька, падлічвалі, колькі вянкоў нясуць перад машынай, назіралі, хто як плача... Потым абмяркоўвалі гэта, а ўвечары ахвотна пераказвалі ўсё бацькам і суседзям, якія толькі-толькі прыйшлі з

працы… Дзякуй Богу, у дзяцінстве лёс пазбавіў мяне ад страшэннай страты блізкага ці нават проста добра знаёмага чалавека.

Аднойчы ў класе чацвёртым наша настаўніца спазнілася на першы ўрок. Ніколі раней гэтага не здаралася, таму мы весяліліся як маглі: хлопчыкі крычалі і бегалі па партах за дзяўчынкамі, стараючыся тузануць іх за касу ці «хвосцік», а дзяўчаткі пішчалі і ўхіляліся ад іх, намагаючыся трэснуць хлопчыкаў кніжкай ці лінейкай па галаве.

Раптам дзверы адчыніліся і ў класны пакой увайшла настаўніца.

— Дзеці, сёння ў нас урокаў не будзе,— абвясціла яна.— У нашага дырэктара загінуў сын.

— Ура! — закрычалі мы.— Урокаў не будзе! Урокаў не будзе!..

— Ціха! — настаўніца ляснула далонню па стале.— Як вам не сорамна?!. У нашага дырэктара вялікае гора: яго сын папаў пад машыну. А вы весяліцеся!..

Мы збянтэжыліся і ціха, амаль на дыбачках, выйшлі з класа. Але, апынуўшыся за школьнымі варотамі, радасна панесліся па нашаму завулку:

— Ура! Не вучымся! А ў нас сёння ўрокаў не будзе!.. Ура!..

Я крычала і радавалася не менш за іншых. Ды і прызнацца, не вельмі спачувала дырэктару, бо, як і многія дзеці ў школе, як я ўжо ўзгадвала, не любіла яго. Ён быў строгі і прыдзірлівы і вельмі сачыў за дысцыплінай у школе. Калі на перапынку ён моўчкі ішоў па калідоры, вірлівае жыццё там адразу заціхала. Высокі, худы, у акулярах, дырэктар толькі круціў ва ўсе бакі сваёй доўгай шыяй, ківаючы на нашы спалоханыя «Здрасьце!» і прыгаворваючы: «Не бегаць! Не дурэць!» З-за сваёй шыі ён быў вельмі падобны на гусака, таму яго так і празвалі.

Прынамсі, зноў паўтаруся, і прозвішча ў яго было адпаведнае — Лебедзь. Дырэктар гэта ведаў і вельмі крыўдзіўся. Таму самыя непаслухмяныя ў школе хлопчыкі, у тым ліку і мой брат, заўсёды крэмзалі крэйдай ці чарнілам на сцяне або падваконні «ГУСАК», а нашы прыбіральшчыцы потым старанна выцíралі абразлівыя надпісы анучай. Акрамя таго, у мяне была свая крыўда на дырэктара. Дні тры таму, папрасіўшыся выйсці з класа, я выпадкова ўбачыла, як Гусак ля гардэроба сварыўся на прыбіральшчыцу бабулю Вольгу за тое, што яна спазнілася са званком на перапынак. Дырэктар аж пачырванеў ад злосці і, разышоўшыся, сварыўся на старую, пырскаючы слінаю, а бабуля Вольга моўчкі стаяла перад ім у сваёй чорнай плюшаўцы, сутаргава сціскаючы пальцы рук, а з вачэй яе цяклі слёзы. Бабуля Вольга была вельмі добрая і спагадлівая да нас, дзяцей, таму мы ўсе яе любілі.

— Буржуй! — абурылася я ў душы. На той час гэтае слова было для мяне самай страшнай абразай: недарма ж я насіла тады на шыі піянерскі гальштук.— Буржуй! Пан!.. Гусак!!! Ну пачакай жа!..

Я вярнулася ў клас і да канца ўрока не слухала тое, пра што расказвала настаўніца ля дошкі, а абдумвала план помсты Гусаку за няшчасную бабулю Вольгу. І план выспеў. Я вырашыла ўчыніць тое, на што дагэтуль не адважыўся ніводны неслух у нашай школе, нават мой брат Сашка. Я вырашыла напісаць слова «ГУСАК» на дзвярах дырэктарскага кабінета. А яшчэ лепей надрапаць ці выразаць маленькім ножыкам. Такі ножык у Сашкі быў.

Тры дні я думала, як лепш гэта зрабіць. Я дрэнна спала, уяўляючы сябе юнай партызанкай, якой трэба выканаць важнае заданне. Я пракручвала ў галаве сцэну, як буду выконваць гэта заданне, і сэрца

маё загадзя сціскалася ад страху. У рэшце рэшт вырашыла, што не здолею выразаць слова «ГУСАК» ножыкам — мне не хопіць на гэта ні часу, ні ўмення: я ж раней ніколі нічога ножыкам не выразала. Таму «ГУСАК» проста напішу каляровай крэйдай на белых дзвярах...

Перад «важнай аперацыяй» я кепска спала і некалькі разоў прачыналася ад трывожнага прадчування: убачаць, зловяць, выключаць з піянераў і са школы!.. Я ўяўляла сабе, як чырвоны, бы рак, дырэктар крычыць і пырскае на мяне слінаю, як ён пырскаў на бабулю Вольгу... Як пашле мяне дадому за бацькамі... Як раззлуецца тата... Як мяне паставяць перад усёй школай на лінейцы... І я зноў правальвалася ў трывожны сон...

Раніцай я падхапілася раней звычайнага і ў школу прыбегла яшчэ да дзяжурных старшакласнікаў. Стараючыся ступаць як мага цішэй у гулкім пустым калідоры, я дайшла да свайго класа, які, дарэчы, быў якраз побач з дырэктарскім кабінетам. Паставіўшы партфель на падваконне, дастала з яго падручнік па матэматыцы і быццам бы стала паўтараць правілы. Адной рукой я трымала кніжку, а другой сціскала крэйду ў кішэні.

Наўкол не было нікагусенькі, але мне здавалася, што за мной назіраюць сотні вачэй. Я ніяк не магла адважыцца. «Раз, два, тры!..» — скамандавала я сама сабе, дастала з кішэні ружовую крэйду і хуценька накрэмзала на белых дзвярах: «ГУСАК». Потым пайшла ў клас, крэйду паклала на маленькую палічку ля дошкі — да іншых крэйдаў, выцерла насоўкай рукі і села за сваю парту — цяпер ужо па-сапраўднаму паўтараць правілы. Я адчувала сябе гераіняй-партызанкай, якая наклеіла лістоўку пад носам у фашыстаў.

А праз дваццаць хвілін прыйшла настаўніца і сказала, што мы не вучымся, бо ў дырэктара вялікае гора.

І вось цяпер я бегла ў натоўпе сваіх аднакласнікаў і разам з усімі радасна крычала:

— Ура! Не вучымся! Не вучымся! Сёння ўрокаў не будзе!..

Дома з парога я радасна абвясціла бацьку, які распальваў печку:

— А мы сёння не вучымся!

— Што здарылася? — здзіўлена спытаў ён і чыркнуў запалкай.

— У нашага дырэктара пахаванне: яго сын загінуў — пад машыну трапіў!

— Ай-яй-яй! — закрычаў бацька.— У дырэктара сын загінуў!..

Тата, як сядзеў перад печкай на кукішках, так і сеў прама на падлогу. Запаленая запалка дагарэла, дайшоўшы амаль да бацькоўскіх пальцаў, і згасла. Тата машынальна кінуў яе ў грубку.

Я здзіўлена ўтаропілася ў бацьку: чаму ён так усхваляваўся — ён жа не ведаў дырэктарскага сына і нават ніколі яго не бачыў.

— Ай-яй-яй! Якое гора! Якое страшнае гора! — паўтараў мой бацька, у роспачы ківаючы галавою. Твар яго збялеў.

— Тата, чаму ты так напалохаўся? — спытала я наіўна.

— Дачушка, ты толькі ўяві сабе: у чалавека сын загінуў! Уяві сабе, што ў яго на сэрцы!.. Як яму цяжка, як ён пакутуе, плача!.. А каб гэта з нашым Сашкам здарылася?!.

Я здзівілася, што бацька назваў дырэктара чалавекам. Я ніколі не думала пра такое. Лічыла, што дырэктар гэта... дырэктар. Што ён можа важна хадзіць

па школе, камандаваць, рабіць заўвагі, нават сварыцца на дзяцей, на прыбіральшчыцу... А каб пакутаваць ды яшчэ плакаць?!.. Уявіць нешта нават накшталт мне было цяжка.

Тады я падумала пра брата. Уявіць яго нежывым і нерухомым, гэтага гарэзу і неслуха, на якім, як гаварыла наша бабуля, скура гарыць, які столькі разоў мяне дражніў, падманваў і крыўдзіў, я тым больш не магла. Але сэрца маё чамусьці раптам сціснулася...

Увечары я малявала і чула, як бацька час ад часу паўтараў, скрушна ківаючы галавой:

— Якое гора!.. Якое гора!..

Наступным ранкам мы стаялі каля нашага класа і чакалі званка на ўрок. Усе абмяркоўвалі падзеі мінулага дня. Некаторыя мае аднакласнікі былі на пахаванні і цяпер ціха расказвалі падрабязнасці. Я ўважліва слухала, а сама міжволі пазірала на дзверы дырэктарскага кабінета. Слова «ГУСАК», напісанае крэйдай, па-ранейшаму ружавела на іх. Мусіць, прыбіральшчыца не мыла сёння дырэктарскі кабінет, таму і не заўважыла гэтай абразы. Было дзіўна, што і мае аднакласнікі не заўважаюць яе. Я ж старанна адводзіла ўбок свой позірк, каб ніхто нічога не западозрыў, не «раскусіў» мяне.

Раптам усе замаўчалі: па калідоры ішоў дырэктар. Гэта быў наш дырэктар і ў той жа час не наш: ён схуднеў і пасівеў, твар яго пачарнеў і рэзка пастарэў. Заўсёды важны і ганарлівы, цяпер наш дырэктар ішоў, увабраўшы галаву ў плечы. Ён выглядаў як выглядае няшчасны чалавек. «Добры дзень!.. Добры дзень!.. Здрасьце!..» — нерашуча павіталіся мы.

— Добры дзень, дзеці! — ціха адказаў дырэктар і прыпыніўся ля сваіх дзвярэй. Усярэдзіне мяне ўсё

пахаладзела. Зараз ён павернецца да нас і спытае: «Хто гэта зрабіў?», і я не змагу схлусіць.

Але дырэктар дастаў з кішэні ключ, адамкнуў дзверы і ўвайшоў у свой кабінет. Тут зазвінеў званок, і мае аднакласнікі гурбою кінуліся ў клас. А я зрабіла тры рашучыя крокі да дырэктарскіх дзвярэй і, паслініўшы палец, паспешліва, але старанна сцёрла абразлівае слова.

## БЕЛАЯ АБЛАЧЫНКА

Мая бабуля была непісьменная — яна не ўмела ні чытаць, ні пісаць. Калі ёй раз на месяц паштарка прыносіла пенсію, бабуля ў ведамасці ставіла крыжык. Бацька мне неяк патлумачыў, што бабуля была маленькай дзяўчынкай даўно, яшчэ да рэвалюцыі, і тады простыя дзеці ў школе не вучыліся, а працавалі разам з дарослымі на пана. Я вельмі шкадавала сваю бабульку, прыгнечаную панам, і некалькі разоў бралася яе вучыць.

— Бабулечка, глядзі: гэта літара «а», а гэта літара «эм». Запомніла?.. Ну а цяпер паўтарай за мной: эм-а, эм-а!..

Бабуля ў светлай хусцінцы, квяцістай паркалёвай кофце на гузіках і доўгай цёмнай спадніцы сядзела за кухонным сталом, пакорліва паклаўшы рукі на калені, і старанна паўтарала ўслед за мной:

— Эм-а! Эм-а!..

— Ну, што атрымалася?..

— Што?..

— «Мама»! Вось што!.. Ну, цяпер прачытай сама!

Бабуля глядзела ў кніжку і, мусіць, ужо не знаходзіла патрэбных літар сярод сотняў іншых. Праз хвіліну-другую яна гаварыла:

— Ат, не магу! У мяне ўжо вочы сляпыя!

Я сердавала: чаму яна не можа прачытаць слова «мама» — гэта ж так проста!

— Вучыцелька, заканчвай свой урок,— звычайна ўмешвалася маці, якая была настаўніцай на самай справе.— Ты не правільна вучыш. Трэба адразу запамінаць склады — ма, му, мы, ме.. Тады іх лёгка складваць у словы.

— Бабулечка, давай запамінаць склады! — радасна абвешчвала я. Але бабуля катэгарычна адмаўлялася вучыцца далей.

— Яшчэ чаго, у мяне столькі спраў па хаце не зроблена!.. Дзякуй Богу, і так не дурная.

І, сапраўды, бабуля шмат чаго ведала. Яна добра лічыла грошы і штодзень хадзіла ў краму, лепш за ўсіх разбіралася ў насенні, памятала, што і калі саджаць на агародзе, што і калі збіраць. Яна ведала ўсе прыродныя прыкметы і магла прадказаць надвор'е. «Заўтра будзе дождж — ластаўкі нізка над зямлёй лятаюць»,— казала бабуля. І, сапраўды, наступным ранкам я прачыналася, а па аконным шкле нудна барабаніў дождж. На кожную падзею, на кожны ўчынак у бабулі знаходзілася нейкая прыказка. «Каша гарачая? — гаварыла яна мне.— Вецер пад носам!». Калі маці ці бацька перажывалі за вынікі якой-небудзь справы, бабуля звычайна махала рукой: «Не плачце наперад!..» І, насамрэч, у рэшце рэшт усё атрымлівалася добра.

Бабуля верыла ў Бога. Кожную нядзелю зранку яна хадзіла ў царкву, а кожны вечар перад сном чытала малітвы. Абразы ў нашай хаце не віселі — маці ж была настаўніцай, ды і ўсе мы ставіліся да

рэлігіі як да перажытку. Таму ўвечар, у прыцемках, калі хатнія кладліся спаць, бабуля, распрануўшыся і зняўшы сваю штодзённую абавязковую хусцінку, у доўгай, белай, споднім кашулі падыходзіла да акна і пачынала шаптаць малітвы, пры гэтым часта хрысцячыся і паўтараючы: «Гасподзь, ратуй і памілуй!», «Гасподзь, ратуй і памілуй!..»

У бабулі была адна пастаянная трывога — унучка-нехрысць. Нехрысць — гэта я. Расказвалі, што, калі я нарадзілася, мяне паклалі ў сумку і ўпотайкі павезлі хрысціць да бацюшкі дадому. У царкву не адважыліся — каб маці не звольнілі з працы. А бацюшкі дома не аказалася.

І вось бабуля на кожнай споведзі ў царкве прызнавалася:

— Грэшная я, бацюшка, унучка ў мяне нехрышчоная. А прывесці і ахрысціць нельга — маці настаўніцай працуе.

— Нічога,— адказваў звычайна бацюшка,— вырасце — сама прыйдзе ў царкву і ахрысціцца.

Штораз, прыходзячы са споведзі, бабуля паўтарала гэтыя словы ў хаце, і ўсе смяяліся з яе, асабліва я: трэба ж, якая яна цёмная!.. Каб я, піянерка, актывістка, выдатніца, ды пайшла да папа хрысціцца?!. Але што са старой возьмеш, яна ж яшчэ да рэвалюцыі расла, чытаць-пісаць не ўмее. Мяне здзіўляла, што мая бабуля, дарослы чалавек, не можа зразумець такога простага: ну дзе той Бог — на небе?.. Дык чаму тады яго нябачна — неба ж празрыстае?!. І як ён там трымаецца — сядзіць на воблачку на зэдліку ці проста так, звесіўшы ножкі ўніз?.. Ды ён жа зваліўся б адтуль даўно, воблачка ж няцвёрдае, з паветра!..

Аднойчы ўлетку мы з сяброўкай, суседскай Галяй, збеглі на рэчку. Рэчка цякла напрыканцы нашага 

доўгага, у сто хат, завулка і была заманлівым месцам для ўсіх дзяцей наўкол. Мае брат і сястра ўлетку бавілі там увесь вольны час, а мяне браць з сабой не хацелі.

— Хвост, ідзі да бабы! — праганялі яны мяне, яшчэ зусім малую. Калі ж я падрасла, дык Сашка са Светай, стаўшы падлеткамі, тым больш не хацелі браць мяне ў сваю кампанію. Яны, нават не адпрошваючыся ў бацькоў, проста збягалі ад мяне на рэчку цішком разам са старэйшымі суседскімі дзецьмі. Гэткая гісторыя была і ў маёй сяброўкі Галіны: старэйшыя брат і сястра таксама ніколі не бралі яе з сабой. Таму часта мы з ёю гулялі ўдзвюх і пасябравалі.

І вось аднойчы, у адзін з асабліва спякотных дзён, мы з Галяй вырашылі таксама збегчы на рэчку. Дома я сказала бабулі, што пайду загараць на луг. Надзела купальнік, узяла старую газету, каб зрабіць капялюш ад пякучага сонца, паклала ў кішэнь паркалёвай сукенкі скараспелы, яшчэ зялёны яблык і пабегла да сяброўкі.

— Глядзі ж, толькі на рэчку не хадзі! — крыкнула мне бабуля з агарода, дзе яна корпалася ў градах.

Я не адгукнулася, а толькі дадала хады.

Гальчына маці, цётка Ліда, мыла бялізну на двары перад іхняй хатай. Яна паставіла вялікія начоўкі на шырокую лаўку ў цяньку пад старым, разрослым бэзам, і старанна церла на тарцы нейкую вялікую, мокрую анучу. Побач з ёй стаялі два пустыя вядры.

Галька выйшла на ганак з хаты, трымаючы пад пахай старую посцілку.

— Ну, куды ўжо сабраліся?..— спытала цётка Ліда, не адрываючыся ад сваёй справы.— Мо, на рэчку? Глядзі, Галька, затопішся — дадому не прыходзь!!!

— Не, мы на луг пойдзем загараць,— зманіла Галька, не міргнуўшы вокам. Я адчула, як чырвань

залівае мне твар. Мяне ахапілі і сорам, і страх, і захапленне смеласцю сяброўкі: я падманваць у адкрытую не ўмела, тым больш дарослых. Каб Гальчына маці ў гэты момант паглядзела на мяне, яна б адразу здагадалася пра ўсё. Але цётка Ліда ўжо церла на тарцы нейкую іншую анучу.

— Вады прынясіце спачатку!..

Мы хуценька збегалі да калонкі, і кожная з нас прыцягнула цётцы Лідзе амаль па поўнаму вядру.

Спачатку мы з сяброўкай пайшлі на луг, а потым, упэўніўшыся, што адышлі ад сваіх хат далёка і нас адтуль ужо не бачна, пашыбавалі ў бок рэчкі. Вось, нарэшце, і яна бліснула сваёй заманлівай роўняддзю.

Па ўсім беразе ракі адпачываючыя размясціліся купкамі, на посцілках і проста на траве, у асноўным гэта былі дзеці з навакольных вуліц. Хто ляжаў проста на цёплай зямлі, падставіўшы спіну палкім сонечным промням, хто чытаў кніжку, а некаторыя, стаўшы ў кола, гулялі ў мяч. Дзяўчаткі плавалі бліжэй да берага, хлопцы плавалі далей, ажно да сярэдзіны, смялейшыя і больш спрытныя з іх — праз усю раку да другога, больш высокага, берага, а там, зрабіўшы разбег, давалі нырца і плылі наперагонкі назад.

Сярод тугой ліпеньскай спякоты прыемна ахутвала вільгаццю. Сэрца зайшлося ад радасці — як цудоўна на рэчцы!.. На вялікае наша шчасце, старэйшых братоў і сясцёр, ні маіх, ні Гальчыных, не было відаць, але мы з сяброўкай на ўсялякі выпадак адышлі далей, у больш бязлюднае месца, каб нас ніхто не ўбачыў і не адправіў дадому.

Мне было крыху сорамна за тое, што я падманула бабулю. Я наогул сама вельмі не любіла хлусоў, але ж... надта хацелася на рэчку!.. Таму зараклася,

што купацца не буду, а проста паляжу на беражку. Тады мой падман не будзе падманам. «Я сказала бабулі, што пайду загараць на луг, а бераг рэчкі — гэта ж край нашага лугу...» — такое я знайшла сабе апраўданне.

Галька, скінуўшы выцвілы ад сонца паркалёвы халацік, які яна даношвала за сваёй старэйшай сястрой, адразу палезла ў ваду.— Вой, якая цёпленькая!.. Томка, ідзі сюды!..

— Не,— кажу,— ты купайся, а я тут… адзежу павартую...

І, змайстраваўшы з газеты капялюш-караблік і пачапіўшы яго на галаву, я расцягнулася на стракатай посцілцы.

Рэчка адразу знікла з маіх вачэй. Цяпер перада мной была толькі парыжэлая ад сонца высокая трава. На лузе за рэчкай яе ўжо скасілі, і духмяны водар сена панаваў па-над берагамі. Дзесьці высока-высока ў небе заліваліся жаўрукі. Хо-ра-ша!.. Вось, дзе адчуваецца сапраўднае лета!.. І чаму раней я не адважвалася бегаць цішком на рэчку?!.

З вады даносіліся лёгкія ўсплёскі, потым яны заціхлі, мусіць, Галька адплыла далей… Нейкі час я ляжала, паклаўшы галаву на сашчэпленыя перад сабою рукі, і млела ад сонца, а потым вырашыла паглядзець, як купаецца мая сяброўка. Прыўзняўшыся на руках і выцягваючы шыю, я намагалася ўгледзець на вадзе, якая пералівалася мірыядамі сонечных блікаў, Гальчыну галаву. І не ўбачыла яе. Устала на ногі. Рака перада мною была пустая, толькі ля супрацьлеглага берага хтосьці ныраў у ваду і зараз жа вынырваў назад. Ныраў і вынырваў…

Спачатку я здзівілася, што маёй сяброўкі нідзе няма,— няўжо яна так хутка адплыла кудысьці далёка?.. Потым падумала: хто гэта так старанна дае

нырца і дзеля чаго?.. Прыгледзелася. І раптам... Гэта ж мая Галька! І не нырца яна дае, а топіцца!

Гальчына галава то знікала пад вадой, то з'яўлялася над ёю з заплюшчанымі вачамі і разяўленым ротам... То знікала, то з'яўлялася...

— Га-а-лька! — закрычала я і зараз жа сцішыла голас. Успомніліся словы Гальчынай маці: «Затопішся — дадому не прыходзь!..» Нельга прыцягваць увагу крыкам, а то збяруцца людзі, прыбягуць і нашы старэйшыя браты і сёстры, тады дакладна дома абедзве бізуна атрымаем.

Што ж рабіць?!. Трэба самой ратаваць сяброўку! Я хуценька збегла з берага ў раку, прайшла некалькі крокаў і... з галавой апынулася пад вадой. Нездарма ў гэтым месцы ніхто не купаўся — дно пад нагамі рэзка абарвалася. Я што было моцы закалаціла пад вадой рукамі і нагамі і вынырнула на паверхню.

— Ап!.. Ап!..— схапіла ротам паветра.

Бераг быў зусім побач, метры два-тры ад мяне. Пасабачы я плавала добра і ўжо праз паўхвіліны ўчапілася б за траву. Але мая сяброўка ўсё яшчэ нырала і вынырвала, і я, перамагаючы страх, паплыла ў яе бок. Рэчка, якая з берага выглядала нешырокай, у вадзе здавалася проста шырачэзнай. Я старанна перабірала рукамі і нагамі ў вадзе, а Гальчына галава ўсё ніяк не набліжалася да мяне. Затое вельмі хутка я адчула, што рукі-ногі сталі цяжкімі і наогул перастаюць мяне слухацца. Вада залівала мне вочы, трапляла ў рот... Добра, што вясной я пачала хадзіць у басейн, таму вады не баялася і ўмела затрымліваць у ёй дыханне. Я перавярнулася на спіну і крыху паляжала, стараючыся не думаць пра тую цёмную страшную бездань, якая была пада мной. Нейкае недзіцячае пачуццё падказвала, што як толькі я даплыву да сяброўкі, яна, знясіленая і перапужаная,

учэпіцца за мяне, і мы абедзве пойдзем туды, у гэтую страшную бездань. Як жа быць?..

Высока нада мной распасцерлася сіняе чыстае неба. Чыстае-чыстае, толькі з адной маленькай белай, амаль празрыстай аблачынкай. «Калі на небе ёсць Бог,— чамусьці падумалася,— дык ён на гэтай аблачынцы». Аблачынка была прама нада мной, перад маімі вачамі… «Гасподзь, памілуй!» — раптам успомнілася бабуліна малітва, якую я столькі разоў чула з самага ранняга маленства. «Гасподзь, памілуй!» — міжволі паўтарыла я ўслых, звяртаючыся да белага лёгкага пёрка на высокім небе, і зноў што было моцы запрацавала рукамі і нагамі. Я паўтарала словы кароткай малітвы на кожны свай грабок.

«Гасподзь!..» — узмах адной рукой… «…памілуй!» — узмах другой... «Гасподзь!..» — узмах… «…памілуй!..» Так я плыла, а вочы мае былі накіраваны ўверх, да белай аблачынкі.

«Ці жывая там яшчэ Галька?» — падумалася, і я павярнула галаву ўбок, каб паглядзець. І ў той жа момант убачыла, як справа, наперарэз мне, моцна разразаючы ваду, да Галькі падплывае нейкі дзядзька. «Дзякуй табе, Божа!»,— з палёгкай падумала я і перавярнулася са спіны на жывот. Праз хвіліну моцныя рукі падхапілі і мяне, услед за маёй сяброўкай выкінулі на бераг. Чапляючыся за траву, я ледзь успаўзла наверх. Мяне хістала з боку ў бок. Я ўбачыла перад сабой сяброўку. Яе таксама хістала, твар збялеў, вусны пасінелі, амаль пачарнелі і дрыжалі — ці то ад холаду, ці то ад страху.

— Г-галька, т-ты што? — спытала я і адчула, што таксама ўся трасуся.

— Шт-т-то?..

— Як-к-к шт-т-то?!. Т-ты ж-ж-ж т-т-тапіл-л-лася! А я ц-цябе р-рат-т-тавала!..



— Я т-т-тапіл-л-лася?!. Т-ты шт-т-то?!. Зд-д-дурнела?! Я н-ныралa! Я р-рыб-бак зах-хацела паг-г-гляд-дзець і н-нырнула... А ад-дна р-рыбка мне ў н-нос з-зал-л-лезла...

Мне захацелася заплакаць: мая сяброўка ледзь не патанула, я кінулася ратаваць яе і таксама ледзь не ўтапілася, а яна цяпер ні ў чым не хоча прызнавацца!.. Рыбак яна глядзела, бач ты!.. Сілы пакінулі мяне, і я апусцілася на зямлю. Галька села побач.

— Каб я па-сапраўднаму тапілася, дык як бы ты мяне ратавала?..— спытала сяброўка, калі праз нейкі час мы абедзве супакоіліся і перасталі трэсціся.

— Як-як?.. Як-небудзь! — адказала я няпэўна, але цвёрда і паглядзела на неба. Яно было чыстае-чыстае, сіняе-сіняе, залітае сонцам. У ім зноў стаяў чароўны пах скошанай травы і заліваліся жаўрукі. Белая аблачынка знікла, быццам яе і не было.

У нядзелю бабуля прыйшла з царквы.

— Да споведзі хадзіла,— сказала яна хатнім.— Новы бацюшка спавядаў. Пра ўнучку нехрышчоную яму расказала…

— І што новы бацюшка сказаў? — мае бацькі пераглянуліся.

— Тое, што і ранейшы: вырасце — сама прыйдзе ў царкву і ахрысціцца.

Бацькі засмяяліся са старой, як з малой.

Бабуля моўчкі пайшла ў пакой, дзе стаяў яе ложак, села на край, абапіраючыся рукой. Уздыхнула… Я падышла, села побач, узяла яе за руку і адчула, якая маленькая, сухая і цёплая далонь у маёй любімай бабулі.

## НОС

Жыла я сабе, пажывала гадоў да чатырнаццаці, і раптам спакой мой прапаў і нават жыць стала немагчыма! І ўсё з-за носа.

Падышла я неяк да люстэрка і бачу: стаіць там нейкае дзяўчо — ногі худзюшчыя, рукі даўжэзныя, шыя куранячая, а горай за ўсё — нос, як у Бураціна! І так павярнуся, і гэтак — тырчыць, быццам флюгер. Ці ж можна з такім носам жыць, асабліва дзяўчынцы? Я прыплюснула яго пальцам: мне б вось такі — кірпаты, маленькі,

акуратны. А з такім доўгім носам, як у мяне, жыць немагчыма.

І не было мне спакою з таго дня. На ўроку сяджу, нос далонню прыкрываю, каб аднакласнікам у вочы не кінуўся — засмяюць, задражняць, сама вочы ўбок адводжу: «Толькі б не заўважылі, якая я непрыгожая!» Увечары доўга заснуць не магу, накрыюся коўдрай і плачу ў падушку: «Божа,— думаю,— за што мне такое пакаранне? Як мне цяпер жыць з такім носам? Хто цяпер мяне пакахае?» Нават у люстэрка перастала глядзецца.

Сястры паспрабавала паскардзіцца — яна мяне высмеяла, маці заікнулася — тая проста раззлавалася: «Ты б менш у люстэрка глядзела, а больш у кнігу!»



Колькі часу цягнуліся мае пакуты, ужо не памятаю, але аднойчы ў цёплы майскі дзень урок фізкультуры праходзіў у нас на школьным стадыёне. Адбегаўшы і адскакаўшы сваё, мы з дзяўчатамі прыселі на сонейку на свежую траўку і, зрэдку пазіраючы ў бок хлопцаў, павялі сваю дзявочую гаворку. І тут высветлілася, што не толькі я ўначы плачу: адна вымахала, бы каланча, а каб ніхто гэтага не заўважыў, увесь час гарбаціцца і ходзіць, апусціўшы галаву, у другой нага амаль саракавога памеру...

І тут я адважылася:

— А ў мяне нос доўгі, бы ў Бураціна, хоць ты яго адрэж!..

Усе змоўклі і ўтаропіліся ў мой нос.

Я чакала прысуду.

І раптам Іра Казлоўская ўздыхнула і ціха прамовіла:

— Давай памяняемся!

Цяпер усе разам утаропіліся ў яе нос. І я таксама. На круглым дзявочым тварыку між двух зялёных вачэй і над прыгожымі пульхнымі вуснамі прыляпілася вялікая мясістая груша. І як мы гэтага раней не заўважалі?

Я адвяла вочы ўбок і падумала: «Не, дудкі, не буду мяняцца, мой нос у параўнанні з гэтым яшчэ нічога!..»

З тае пары мае пакуты скончыліся: і па начах спаць пачала, і ў люстэрка пачала глядзецца. А праз шмат гадоў я даведалася пра «цяжкі» ўзрост, пераходны, які ў кожнага чалавека бывае. Мусіць, тады якраз цераз гэты ўзрост я і пераходзіла…

# ХЛОПЕЦ С ЧУЖОЙ КАМАНДЫ

Пасля шостага класа мяне ўпершыню ўключылі ў школьную турысцкую каманду. Перад спаборніцтвамі мы кожны дзень прыходзілі зранку на школьны стадыён і падоўгу рыхтаваліся: бегалі, лазілі па канаце, вучыліся распальваць агонь з адной запалкі і хутка разбіваць палатку. Старэйшыя хлопцы і дзяўчаты вучыліся арыентавацца па компасу.

Нялёгкая гэта справа — арыентавацца ў незнаёмай мясцовасці. Тут патрэбны не толькі добрыя веды па геаграфіі, але смеласць і мужнасць. Я нават баялася ўявіць сабе, як гэта — бегчы па чужым лесе і не заблукаць, знайсці ўсе «пікеты», ды яшчэ прыбегчы да фінішу, паказаўшы належны час. Я таксама крыху разбіралася ў карце. Але галоўнае, праз што мяне ўключылі ў каманду, было тое, што я, невялікая і худзенькая, добра пралазіла пад пасткаю. «Пастка» — гэта адзін з этапаў турысцкай эстафеты. Зверху на два забітыя ў зямлю калкі кладзецца трэці. І так — доўгі рад. Трэба хутка, але асцярожна прапаўзці пад імі, каб не зачапіць, каб ні адзін верхні калок не зваліўся. Здаецца, як можаш, прыціскаешся да зямлі, стараешся не раскідваць локці, не ўзнімаць высока плячэй і галавы, а ўсё адно верхнія калкі падаюць на спіну.

— Яшчэ паўзі! Штрафны час! Зноў паўтарыць! — камандуе фізрук Пётр Пятровіч.

Паўзеш — пот градам, на зубах пясок. На грудзях майка чорная ад зямлі, на спіне — ад поту. Так напоўзаешся за дзень, што на зямлі замест травы з'яўляецца глыбокая баразна.

Калі прыехалі на спаборніцтва, у першы вечар палілі вогнішча сяброўства. Хто быў на такіх святах,

напэўна, праз усё жыццё пранясе тыя незабыўныя часы, калі, хвалюючы, звіняць гітары, а песні, як на крылах, ляцяць у цёмнае, таямнічае неба, плывуць над возерам да прыбярэжных сосен, ахутаных густым туманам.

...Раніцай мяне раптам выклікаў фізрук. Пётр Пятровіч стаяў на паляне, дзе ўчора было вогнішча. Вакол яго сядзелі хлопцы і дзяўчаты з каманды па спартыўным арыентаванні. Яны не глядзелі на мяне: усе, як адзін, ашчаперыўшы рукамі сагнутыя калені, утаропіліся ў зямлю.

— Вось якая справа, Тамара,— нерашуча пачаў Пётр Пятровіч,— учора сёй-той паспрабаваў выкупацца ў возеры...

Я ўжо ведала пра гэта. Адну дзяўчыну з нашай каманды адправілі дадому: падскочыла тэмпература.

— У нас ёсць запасная... Але яна ўдзельнічае ў віктарыне «Мой родны кут», а гэта адначасова...— Пётр Пятровіч самотна ўздыхае.— Галоўнае — знайсці ўсе «пікеты», час ужо нас не цікавіць. Абы толькі ты не згубілася...

Мне зрабілася страшна. «Абы не згубілася...» Я паглядзела на карту мясцовасці, і рукі ў мяне задрыжэлі.

Хлопцы і дзяўчаты абступілі мяне, давалі парады, але я амаль нічога не разумела.

— «Пікеты» хаваюцца ў кустах, глядзі ўважліва...

— Толькі не пытайся ў тых, хто ўжо знайшоў «пікет», ён пакажа зусім у другі бок...

— Не тушуйся, Тамарка...

Нарэшце — старт. У адной руцэ ў мяне планшэт з картай, у другой — компас. Бегчы няцяжка, але праз якую сотню метраў цыбатая дзяўчына, з якою мы выбеглі разам, знікае невядома куды.

Я гляджу на карту. Першы «пікет» недзе блізка ад шашы, каля павароту на прасёлак. Вось! Я збочваю,



лезу ў кусты і адразу ж за імі бачу на палянцы дзвюх маладых настаўніц з суседняй школы. Яны ляжаць на коўдры і загараюць.

— Сюды! — крычаць яны, махаюць рукамі.

Адна з іх ставіць подпіс на адвароце маёй карты. Дык вось што гэта такое — «пікет»!

— А цяпер куды? — нерашуча пытаюся я.

Настаўніцы, усміхаючыся, пераглядваюцца. Потым тая, што распісвалася, паказвае ўбок і, падміргнуўшы, шэпча:

— З паўкіламетра... Каля крыніцы...

Не чуючы ног, лячу туды. Вось і крыніца, але я нікога не бачу. Крыху прабягаю наперад, потым вяртаюся назад.

— Гэй!..

Ні гуку. Няўжо мяне падманулі?

У гэты момант злева чуецца трэск і з кустоў вылазіць тоўсты дзядзька. Ён у спартыўных штанах, падкасаных да каленяў. У яго на галаве шапачкай завязана насоўка, пад пахаю — тоўстая кніга. Дзядзька моўчкі ставіць свой подпіс і, павярнуўшыся да мяне чырвонай спінай, зноў лезе ў кусты.

— Куды цяпер?..— пытаюся я.

— На карце паказана,— буркае спіна.

Бягу праз кусты. Пачынаецца малады ельнічак. Чаму ён не адзначаны на карце? Вось нейкія знакі, ды я іх не ведаю... Нечакана на мяне вылятае дзяўчына, з якой мы стартавалі. Яна ўжо адшукала трэці «пікет» і бяжыць да чацвёртага.



— Паслухай, дзе трэці?..— лаўлю яе за руку. Дзяўчына на момант супыняецца, глядзіць на мяне: сказаць ці не сказаць? Потым, апамятаўшыся, зрываецца з месца і ківае ўбок: «Там, каля калодзежа...»

Бягу туды. Пасадкі канчаюцца, пачынаецца лес. Дзе ж калодзеж? Лес гусцее. Мне становіцца цяжка дыхаць. У горле перасохла, дзярэ, у баку пачынае паколваць.

Я пераходжу на крок. Іду павольна. Галлё ўсё часцей б'е па твары, чапляецца за плечы, абдзірае рукі.

Нарэшце становіцца зразумела, што ніякага калодзежа тут няма. Паварочваю назад. Але што гэта? Куды падзеліся пасадкі? Гляджу на карту, потым на компас. Дарэмна, я не магу сарыентавацца! За-блу-ка-ла! У адчаі спыняюся на месцы, разважаю: куды падацца? Слёз няма, але я пачынаю ціха енчыць: «Аёй, аёй, аёй...»

Раптам чуюцца трэск і хуткія крокі. Хто гэта? Я не адважваюся крыкнуць, чакаю таго, хто бяжыць якраз на мяне. З гушчару выбягае высокі худы хлопец у жоўтай майцы. На руцэ ў яго компас, а з кішэні штаноў выглядае планшэт.

З палёгкай кідаюся да яго:

— Дзе трэці «пікет»?..

— Там, ля старога калодзежа...

— Дзе гэта, дзе?..— я чапляюся за яго худую руку.

— А ты што, заблукала? — ён цяжка дыхае, ногі нецярпліва падрыгваюць, але стаіць, не ўцякае.

Ён на дзве галавы вышэйшы за мяне, можа, дзевяцікласнік. Яго твар абсыпаны рабаціннем, а на носе яшчэ не зніклі адмецінкі ад акуляраў.

— Не кідай мяне! — прашу яго.

— Мне трэба бегчы!

— І я з табою!

— А трэці «пікет»? Ты ж не адзначыла?..

— Ну і што, мне ўжо ўсё роўна... Не кідай мяне, мне страшна!

Хлопец глядзіць на мяне доўгім позіркам, аб нечым разважае, а потым кажа:

— Давай планшэт...

Ён знікае. Я нават не паспяваю зразумець, ці правільна зрабіла, што аддала карту, а хлопец ужо вяртаецца і — цуд! — на адвароце стаіць новы подпіс.

Ён хапае мяне за руку, і мы бяжым далей. Хутка я пачынаю адставаць, але ён не расціскае далоні. Бачу яго спіну: між лапатак майка мокрая, прыліпла да цела. Далонь у яго таксама потная, гарачая, доўгія дужыя пальцы ўсё мацней сціскаюць маю руку. Але нарэшце я вырываюся і апускаюся на зямлю.

— Не магу болей! Давядзі мяне да дарогі... А там я сама знайду лагер...

— Да чацвёртага «пікета» зусім блізка,— супакойвае ён.— Інакш вашай камандзе залічаць паражэнне.

«Дзівак! — гляджу на яго са здзіўленнем.— Шкадуе чужую каманду». Але сама адразу ж пранікаюся даверам: ён не кідае мяне адну.

— Ану, пабеглі,— хлопец робіць рашучы крок, і мы зноў бяжым. Не, не тое слова, хлопец проста цягне мяне за сабою, нібы на буксіры.

— Дыхай праз нос,— загадвае ён.— Раўней дыхай... Павінна адкрыцца другое дыханне.

Хутка мне сапраўды становіцца лягчэй.

Як цяпер бачу тое відовішча: з узгорка ўніз спускаецца доўгая прасёлкавая дарога. Злева кусты, а справа — хвалі збажыны. Яна пацямнела ад вялікай хмары, якая выпаўзла з-за лесу. У той далёкі лес мы і бяжым да апошняга «пікета», бяжым насустрач навальніцы.

— Баішся? — хлопец, усміхаючыся, сцішвае бег.

— Не,— адказваю я, бо сапраўды не баюся. З ім не баюся. Я нават ведаю: каб на хлопцы быў які пінжак, ён абавязкова зняў бы яго і аддаў мне.

Бяжым, над намі грыміць, і мы ўжо мокрыя ад дажджу. Хлопцавы валасы абляпілі лоб, нос стаў доўгі, твар непрыгожы. Раптам я прыкмячаю, што ён вельмі падобны на майго старэйшага брата. Такі ж худы, нязграбны і... добры. Можа, і я нагадала яму малодшую сястру? Чаму ён цягне мяне, дзяўчынку з чужой каманды?..

— Давай, Тамара! Давай! Малайчына!!! — крычаць мае сябры па камандзе. Яны скачуць ля фінішнай лініі.

Хлопец, нарэшце, адпускае маю руку. Я бачу, як яго абступаюць сябры. Не, яны не ўсміхаюцца, не абдымаюць, не віншуюць майго выратавальніка. Яны не задаволены яго вынікам. Напэўна, на яго спадзяваліся, а ён не спраўдзіў надзей. Затое мяне ўсе цалуюць, нешта пытаюць. Я, шчаслівая, расказваю пра свае прыгоды, якія цяпер здаюцца зусім не цяжкімі, а, наадварот, смешнымі і цікавымі.

Я не бачыла больш таго хлопца: ні на іншых спаборніцтвах, ні на заключным вогнішчы. Я не ведаю яго імя і прозвішча, забылася, які ў яго твар, і цяпер, сустрэўшы дзе-небудзь на вуліцах горада, не пазнала б. Але тыя дужыя, вузлаватыя пальцы, той поціск гарачай далоні хлопца з чужой каманды я памятаю і цяпер, праз шмат гадоў.

# ЛЮБІМАЕ СВЯТА ДЗЯЦІНСТВА

Ніколі цяпер ужо, калі стала дарослай, я не адчувала таго хвалюючага пачуцця, з якім у дзяцінстве чакала набліжэння навагодняй ночы. Гэта было чаканне новага, неверагоднага, казачнага... Гэта свята было для нас, дзяцей, асабліvae ўжо тым, што кожны год у навагоднюю ноч мы адпраўляліся ў падарожжа, у госці да матулінага брата, які жыў у вёсцы пад назвай Солы. Гэта было не простае падарожжа, а падарожжа на цягніку, значыць, далёка-далёка... Нядаўна, праязджаючы праз гэтую станцыю, я са здзіўленнем выявіла, што яна знаходзіцца ўсяго толькі ў сарака хвілінах язды ад нашага горада.

...Нарэшце, пасля доўгіх збораў, захутаная паверсе паліто ў вялікую матуліну хустку, я выходжу на ганак. Каля брамкі даўно ўжо топчуцца мае старэйшыя сястра і брат. На вуліцы цёмна, марозна, пуста. Суседнія дамы ў цемры садоў падобныя на казачныя хаткі. У вокнах — агеньчыкі навагодніх ёлак, над белымі капялюшыкамі дахаў — слупы дыму з комінаў, а на небе — россып зорак. У звычайную ноч нас даўно адправілі б спаць, але ж сёння — ноч незвычайная!..

На ганку з'яўляецца мама ў зялёным паліто з прыгожым каўняром з чорна-бурай лісы і ў шыкоўных белых боціках. Так яна апранаецца толькі на святы. Мама адразу пачынае хвалявацца і ўсіх падганяць: «Спознімся, вось пабачыце, спознімся на цягнік!..» Бацька замыкае хату, і мы ўсе дружна рушым на вакзал.

У амаль пустым вагоне перш-наперш я расхутваю цяжкую хустку і адразу прыліпаю лбом да акна. За вагонным шклом адплывае святочны горад. Днём

звычайны, з шэрымі дамамі і шэрымі платамі, цяпер ён падобны на заліты агнямі карабель: у кожным акне гарыць святло, зіхацяць рознакаляровымі агеньчыкамі ёлкі, на вуліцах запалены ўсе ліхтары, здалёк падобныя на доўгія гірлянды. Але гэты святочны «карабель» усё далей адплывае ў цемру і нарэшце зусім знікае. І вось ужо толькі абрысы чорнага лесу цягнуцца ўздоўж чыгункі, быццам доўгі калючы хвост нейкага страшыдла... Больш за акном нічога не відаць, і глядзець ужо нецікава. Застаецца толькі слухаць, што выстукваюць колы. А колы, мне на здзіўленне, выстукваюць: «З Но-вым го-дам! З Но-вым го-дам!..»

Вось і Солы! На станцыі, пад ліхтаром, нас чакае матулін брат, дзядзька Лявон. Вясковы настаўнік,



ужо на пенсіі, ён стаіць, абапіраючыся на кіёк, і радасна ўсміхаецца нам. Праз хвіліну мы, дзеці, пакінуўшы дарослых, якія ідуць паціху, бяжым наперад, каб у начной цемры пазнаць дзядзькаву хату, дзе нас заўсёды так гасцінна сустракаюць. Проста з парога мы трапляем у абдымкі сваякоў. Нас цалуюць, цiскаюць, пакручваюць, разглядаюць, ахкаюць і, нарэшце, цягнуць у хату. У хаце пахне святам: пірагамі, вінегрэтам, смажанай рыбай, вядома, ёлкай. Яна, упрыгожаная, стаіць у куце, саступіўшы месца пасярэдзіне «чыстага» пакойчыка вясковай хаты святочнаму сталу. З-пад ёлкі раптам выскокваюць маленькія чэрці з ускудлачанымі валасамі, з тварамі, запэцканымі сажай, а за імі, пастукваючы таўкачом па вялікай патэльні, тупае гарбатая Баба Яга.

— Вой! Вой! — прытворна-спалохана крычаць госці і гаспадары. Гэта дзядзькава жонка цётка Маруся наладзіла нам традыцыйны прыём. Яна — вялікая выдумшчыца. Нягледзячы на тое што ў яе шмат унукаў, цётка вельмі любіць розныя розыгрышы. Цётка Маруся ўмее не толькі смачна гатаваць, смажыць, пячы, вязаць, але гэтак жа па-майстэрску наладжвае сямейныя святы, не абмінаючы ні дзён нараджэння сваіх дзяцей і ўнукаў, ні юбілеяў, ні чырвоных дат календара, тым самым збіраючы і аб'ядноўваючы вакол сябе радню. Сяброўка цёткі Марусі, бліжэйшая суседка цётка Ганэчка,— яе першы памочнік ва ўсіх забавах. Вось і цяпер яна высоўвае з-за печы галаву ў парыку і ў размаляванай масцы з кручкаватым носам з пап'е-машэ.

Цётка Маруся распранае гасцей, запрашае да стала, а потым гаворыць:

— Ну, усё, госцікі дарагія, будзьце як дома, а мы з Ганэчкай пабяжым у клуб па прыз!..

І, апрануўшы кажухі навыварат, яны бягуць у вясковы клуб на карнавал. Дзядзька Лявон, зусім не

збянтэжаны знікненнем гаспадыні, рассаджвае гасцей на крэслы, табурэткі, старэнькую канапу. Пачынаецца цёплая размова пра сваякоў, пра тое, хто як пражыў адыходзячы год, што ў ім было добрае і не надта, хто на што хварэў, як вучацца дзеці... Хутка ўсе пачынаюць гаварыць, перабіваючы адно аднаго.

Я разам з дзядзькавымі ўнукамі сяджу ля ёлкі і разглядаю цацкі. Ой, хатка вісіць, у яе дах белы, быццам снегам пакрыты, а на самай справе снег... з ваты. Хатка і ў мінулым годзе на гэтым жа месцы вісела. А ля яе — шкляныя дзед і баба. Вось і яны на сваіх жалезных прышчэпках сядзяць ля хаткі. А вось зайчык з крыху адбітай лапай. Я і яго памятаю!

У размовах і ўспамінах неўпрыкмет пралятае гадзіна. Праз некалькі хвілін наступіць Новы год. Усе пачынаюць хваляваціца: час садзіцца за стол, а гаспадыні няма. Дзядзька запрашае ўсіх за стол і на ўсю моц уключае тэлевізар. Дыктар урачыста абвяшчае: «З Новым, тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят восьмым, годам, дарагія таварышы! З новым шчасцем!» Пачынаюць біць куранты. І тут расчыняюцца дзверы і разам з клубамі марознага паветра ў хату ўрываюцца нашы расчырванелыя артысткі:

— Прыз! Ура! Прыз!

Цётка Маруся трасе над галавой прыгожымі кубачкамі. У руках цёткі Ганэчкі — размаляваны чайнік.

— Ура! — падхопліваюць госці.

— Хутчэй налівайце шампанскае — хвалюецца дзядзька.

— У новыя кубкі! У новыя кубкі! — крычаць усе.

Дзесьці далёка-далёка куранты адбіваюць хвіліны новага года, новага шчасця мамы, таты, цёткі Марусі, дзядзькі Лявона, братоў і сёстраў, родных і стрыечных, і, вядома ж, майго шчасця.

А ў тым, што наперадзе толькі добрае, толькі вясёлае, толькі шчаслівае, ніхто і не сумняецца.

Потым усе танчаць. Цётка Маруся з цёткай Ганэчкай скачуць вакол свайго прыза. Дзядзькаў старэйшы сын, інжынер са сталіцы, падскоквае са сваёй жонкай, мая мама — з татам. Нават малыя ўтварылі карагод. І толькі дзядзька сядзіць на крэсле, прыціснуўшыся спіною да гарачай печы, і прытупвае ў такт музыцы…

Весялосць працягваецца доўга. Потым проста на крэслах пачынаюць засынаць меншыя дзеці, і дарослыя на руках пераносяць іх на вялікі ложак. Я сяджу на канапе і з апошніх сіл змагаюся са сном. Не хачу засынаць. Я хачу, каб свята працягвалася як мага даўжэй! Але хутка ўсё вакол туманіцца, і чыесьці моцныя рукі нясуць мяне на ложак, распранаюць, накрываюць тоўстай коўдрай.

Хутка засынаюць усе. Спяць на ложках, на канапе, на падлозе, дзе разасланы кажухі і старыя паліто. Спяць браты і сёстры, цёткі і дзядзькі, пляменнікі, унукі... Спіць вялікая радня.

І толькі на кухні за сталом сядзяць і шэпчуцца мама і яе брат Лявон. Потым ён устае, падыходзіць да печы, дзе сушацца дзіцячыя боцікі, валёнкі і галёшы. Дзядзька кладзе цукеркі ў кожны боцік, у кожны валёнак, у кожны галёш.

— Заўтра скажам, што ноччу Дзед Мароз прыходзіў,— смяецца ён.

...Неяк мой брат, які стаў ваенна-марскім афіцэрам і служыў на Балтыйскім флоце, сказаў мне, што кожны раз, едучы на цягніку ў Калінінград праз Солы, не можа заснуць, не дачакаўшыся гэтай станцыі і не паспрабаваўшы разгледзець за вагонным шклом у цемры той двор, дзе калісьці стаяла дзядзькава хата, дзе было сустрэта столькі шчаслівых Новых гадоў дзяцінства. І кожны раз у яго з надзеяй сціскаецца сэрца: а раптам убачу?..

## *ЗМЕСТ*

**Бунта, Т. П.**

Б91 Дзяўчынка з Вішнёвага завулка : апавяданні / Тамара Бунта ; маст. Аксана Аракчэева.— Мінск : Мастацкая літаратура, 2016.— 78 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1701-1.

Зборнік апавяданняў для дзяцей, у якіх аўтар з цёплай усмешкай прыгадвае вясёлыя і сумныя гісторыі свайго дзяцінства. Падзеі адбываюцца ў невялікім беларускім горадзе напрыканцы 1960-х гадоў мінулага стагоддзя.

**УДК 821.161.3-32**
**ББК 84(4Беи)-44**